9 кастрычніка 2020 | № 38 (697)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

**«Я жадаю Беларусі максімальна магчымай незалежнасці»**
**Стар. 10**

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144
•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ



# Мы акрыленыя смакам свабоды, яны прыбітыя страхам страціць пасаду

Яраслаў РАМАНЧУК

Мы сталі іншымі — яны не змяніліся.

Мы паспелі і вылезлі са шкарлупіны — яны засталіся за забралам саўка.

Мы прапусцілі праз сябе боль і прыніжэнне, яны — замацаваліся ў хлусні і крывадушнасці.

Мы ўсвядомілі каштоўнасць незалежнасці духу, яны не ўяўляюць жыццё без падпарадкавання і закабалення.

Мы сталі вітацца з суседзямі, частаваць адзін аднаго ўсмешкамі, яны — скурчыліся, акрысіліся і атачылі сябе штыкамі.

Мы акрыленыя смакам свабоды, яны прыбітыя страхам страціць пасаду.

Мы матываваныя пачуццём справядлівасці, імі рухае прага ўлады.

Мы патрабуем праўды і права, яны нападаюць фэйкамі і паходнямі.

Мы хочам будаваць краіну для жыцця людзей, яны абараняюць наменклатурна-сілавы эксклюзіў.

Мы спяваем «Жыве Беларусь!», яны жуюць савецкую папсу.

Каштан сучаснай беларускай нацыі паспеў. Або блізкі да таго. Каштан як вынік духоўнага росту на дрэве жыцця, як прадукт супярэчлівай эпохі, як плод адзінства мільёнаў сумленных, адказных, пасіянарных людзей.

Адны кажуць, што мы ўжо раскрыліся, расправілі плечы. Што нас ужо не спыніць.

Іншыя пераконваюць, што яшчэ не, што не прайшлі мы яшчэ Горан гісторыі, выпрабаванні цяжкасцямі. Маўляў, мы яшчэ не выйгралі дастатковую колькасць бітваў. Не факт, што каштан упадзе на ўрадлівую глебу. Яшчэ рэальная пагроза, што ўсё дрэва могуць ссекчы.

Занадта многія ўсё яшчэ разлічваюць цягаць каштаны з агню чужымі рукамі.

Час пакажа. Я веру ў нашу перамогу, таму што такой колькасці народных герояў, якія выступілі за нашу і вашу свабоду, наша краіна яшчэ не ведала. Пераможа народны каштан.







**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

# «Я выбіраю кахаць»

Вольга СЕВЯРЫНЕЦ

**Калі мы пазнаёміліся, мне было 17 гадоў. Сябар, які здымаў з ім кватэру, запрасіў у госці глядзець «Плошчу», і я ўбачыла Пашу. Добра памятаю гэты момант і яго вочы. Відаць, у іх ужо тады можна было ўгледзець усё наша жыццё…**

Лёс гарачымі кроплямі расстаўляе акцэнты кахання. Здаецца, у жыцці так і не бывае — гэта ж кніга, раман! І наступную старонку перагарнуць — зацінае дых то ад шчасця, то ад болю.

Расстанне спачатку лічыш гадзінамі, днямі, пасля месяцамі, камусьці давялося лічыць гадамі. 100 дзён. Зноў проста быць побач уяўляецца чымсьці неверагодным. Прыйшла любоў доўгацярплівая.

Успаміны ўцякаюць. У грудзях — дзірка з палову душы. Здаецца, адной думкай можна разбурыць бетонныя сцены турмы. Каханне — гэта выбар. Я выбіраю кахаць.

Сілюся ўзгадаць самы шчаслівы дзень у нашых стасунках — вянчанне, нараджэнне дзетак? А перад вачамі момант, калі ён вяртаецца дадому. Я пазнаю яго па кроках, адчыняю дзверы — і вось ён ідзе.

Самыя ўтульныя сямейныя вечары перад суткамі. Добра, калі ёсць да каго вяртацца, добра, калі ёсць каго чакаць.

Я заўсёды мушу быць гатовай сказаць яму: «Ідзі». Я хачу зразумець яго адказнасць і ахвярнасць. У маім каханні мне хочацца набыцца з ім удосталь, у маім каханні мне трэба быць гатовай адпусціць яго. Яго душа — гэта мая душа.

Ад моманту нашай першай сустрэчы да вянчання прайшло пяць гадоў. Я слухала голас Пашы з праграмы «Свабоды» ў слухаўках, гуляючы па Свіслачы, ён сядзеў у Амерыканцы. Дзівоснае адчуванне — разумець, што дзесьці ёсць чалавек, якому наканавана быць часткай твайго жыцця.

Тры гады «хіміі» ў Купліне. У закратаваным інтэрнаце на другім паверсе была Пашава «камера» — пакой з двух'яруснымі ложкамі, малюсенькі стол. Месца зняволення, а ўспаміны ўтульныя — суворая турэмная рамантыка. Аднойчы прыехала, адчыніліся рыпучыя дзверы ў пакой назіральніка — паварочваюся, а Паша стаіць у белай кашулі, чорных акулярах і… без вусоў. Мой любімы беларускі Джэймс Бонд.

Прапанова на Плошчы Волі пад званы храмаў. Заручальны пярсцёнак. Вянчаліся зімой, праз 3 месяцы пасля вызвалення з «хіміі». 11 студзеня. Елкі з сінімі гірляндамі ля алтара. Поўны касцёл сяброў. У здымнай кватэры, дзе мы жылі першы час, ад гаспадароў засталася карціна, такая ж, як вісела ў куплінскім пакоі — Маленне аб чашы. Хай будзе воля Твая…

Праз год нарадзіўся Янка. Залаты хлопчык. Ён паміраў у шпіталі побач, а Паша запальваў пад вокнамі радзільні аганькі, пускаў ноччу феерверкі, застаўляў усё кветкамі і ішоў на ўсю ноч сядзець у холе лякарні, каб быць бліжэй да маленькага. Чарговая гарачая кропка кахання.

«Што такое жыццё ваша? Пара, якая з'яўляецца на кароткі час, а потым знікае».

Каханне спее ў штодзённасці, загартоўваецца ў выпрабаваннях, дасканаліцца. Што я яшчэ магу зрабіць для цябе проста зараз? «А давай мандарынку на дваіх?» У Бога — чым далей, тым лепш, значыць, няма межаў шчасцю. Бяры колькі хочаш. А зараз чакай.

І мы чакаем — ужо не толькі каханага мужа, але і тату, які падкідае да самай столі, бясконца выдумвае гульні, навучыць маліцца. Францішак сур'ёзна, гледзячы татавым позіркам, просіць перадаць яму ў лісце «Зыве Беўаусь!» Канечне, жыве, Францішак, і будзе жыць!

Бог вядзе нас Сваім шляхам, і мы ідзем. Я ўдзячная, што магу ісці побач з Пашам. 7 гадоў. «Пячаткай пакладзі мяне на сэрца сваё, пакладзі на рукі, як пярсцёнак». Напоўненыя дабраслаўленнем дні. Кожнаму патрэбны чалавек, які заўсёды будзе на тваім баку.

Бог ужо вызначыў той дзень, калі мы ўбачымся зноў.

І дзень, калі мы пераможам, таксама.

# Гэта краіна называецца Беларусь

**Святлана Ціханоўская распавяла ў інтэрв'ю DW аб тым, што будзе з Беларуссю, і які план ёсць у апазіцыі.**

***— Беларусы ўжо два месяцы выходзяць на мітынгі: іх катуюць, арыштоўваюць, б'юць, паліваюць вадой. Наколькі яшчэ хопіць дыхання і мужнасці ў людзей у Беларусі?***

— Беларусы змяніліся, і дыхання хопіць. Мы занадта доўга цярпелі. Мужнасці тым больш хопіць. Гэта не скончыцца. Калі кажуць, што дэманстрацыі здзімаюцца, — гэта прапаганда. Нават калі колькасць людзей будзе змяншацца, з-за надвор'я ці нейкіх іншых прычын, то пратэставы рух не зменшыцца. Мы ніколі не вернемся да таго стану, у якім былі 26 гадоў таму.

***— У якім горадзе ці месцы знаходзіцца галоўны рычаг процідзеяння чалавеку, супраць якога пратэстуюць столькі людзей у Мінску, Бруселі, Берліне, Маскве?***

— Гэта не горад, гэта ўся краіна. Гэтая краіна называецца Беларусь.

***— Які ў вас план?***

— Наш план пераменаў у Беларусі складаецца з трох пунктаў, мы яго ўжо агучвалі. Гэты ціск на ўладу, які павінен прывесці да перамоваў. А перамовы заканчваюцца новымі, сумленнымі выбарамі.

***— Што дазваляе вам спадзявацца на тое, што вашы дзеянні будуць мець вынік?***

— Самі беларусы. Калі б не было беларусаў і іх падтрымкі, то нічога б гэтага не было. Калі вы глядзіце на мяне, вы бачыце беларускіх людзей — усіх, хто супраць гвалту, супраць фальсіфікацый, супраць рэжыму.

***— Як вы думаеце, калі скончыцца ўсё, што мы цяпер назіраем?***

— Я не ведаю. А як можна прагназаваць, калі ўсё гэта скончыцца? Яно скончыцца перамогай. Калі? Хацелася б, каб найхутчэй, таму што народ пакутуе, народ збіваюць. Мы змагаемся для таго, каб пазбавіцца ад гэтай дыктатуры, а вось калі — пытанне адкрытае.

***— Яшчэ год таму ніхто і ўявіць сабе не мог, што вы будзеце сустракацца з Ангелай Меркель.***

— Усе гэтыя сустрэчы вельмі важныя для Беларусі. Гэта, вядома, робіць мне вялікі гонар, але не асабіста як Святлане Ціханоўскай, а як голасу беларусаў. Вы глядзіце на мяне — і бачыце ўсіх беларусаў, якія змагаюцца за свае правы.

# Чат з малінавым варэннем — мадэль дэмакратыі ў нашым цэнтры Еўропы

Сяргей КАЙКО

**Чаму дамавыя сеткавыя групы набылі ў Беларусі вялізарны размах, значны ўплыў і вірусны распаўсюд? Чаму сталі рухавіком пераменаў і сімвалам пратэсту? Усё проста: бадай, гэта адзіная мадэль дэмакратыі ў нашым цэнтры Еўропы.**

«Спадарства, сёння збіраемся ў двары? Магу спячы пірог, хто прынясе кіпень для кавы і гарбаты?»

«За 36-м домам падазроны бусік з таніроўкай. Здаецца, унутры “аліўкі”, будзьце там асцярожныя з ланцугом салідарнасці. Працягваю назіраць…»

«Сусед з 72-й кватэры трапіў на суткі. Каму здаём грошы на дапамогу сям'і?»

Падобнымі допісамі ў гэтыя дні стракацяць тэрытарыяльныя суполкі ў тэлеграме. У чатах — надзвычай папулярнае сёння слова — на ўсю моц віруе жыццё. Грамадскае, палітычнае, сацыяльнае. Пад нікамі, з эмодзі і гіфкамі — і, зразумела, з даўжэзнымі шлейфамі паведамленняў, якія ў рэжыме 24/7 нясуць пульс беларускага пратэсту.

Сухарава — амаль 3000 карыстальнікаў, Лебядзіны — 2600, Серабранка — 3400… У кожным мінскім мікраараёне існуе такое інтэрнэт-згуртаванне суседзяў (часцей за ўсё іх некалькі), і ў гэтых нязгасных кам'юніці — вялікія магчымасці.

Дамовіцца пра вечаровыя сустрэчы. Дапамагчы пацярпелым — грашыма, перадачай на Акрэсціна, у якасці нянькі для малога. Падзяліцца інфармацыяй і асабістым досведам — пра паводзіны на Маршы, месца, дзе можна набыць БЧБ-сцяг, лакацыю чарговага чаявання з малінавым, як цяпер модна казаць, варэннем. Ну, ці проста патачыць лясы, пасмяяцца альбо абмеркаваць побыт, які ніхто не адмяняў.

«Згубіўся сабака! Толькі што бачыла — тырчыць на раёне пад “Каронай”, змёрз… Зараз скіну фотачку…»

Чаты — дзівосная экасістэма, дзе няма начальнікаў і падначаленых, усе ўсім сябры і роўня, і кожны сам сабе рэжысёр, лялькавод і каардынатар.

Калі цяперашнія падзеі ў краіне дарэчна называць рэвалюцыяй, то чаты — адзін з яе прыкметных рухавікоў. Гэта недзе там — у каналах на сотні тысяч падпісчыкаў — цытуюць Лукашэнку і Ціханоўскую, «звальняюць» універсітэцкіх выкладчыкаў і «закрываюць» на суткі зорак спорту. Беларускі пратэст, як вядома, дэцэнтралізаваны і гарызантальны — без інфармацыйнай падтрымкі на нізавым узроўні, на ўзроўні вуліц, двароў ці нават пад'ездаў, ён мог бы вычыхацца яшчэ на пачатку восені.

Але ён не вычыхаецца. Бо Шаранговіча вітае Лабанка, Ташкенцкая па-сяброўску кпіць з Галадзеда, а Новая Баравая збіраецца ў госці да Копішча.

Добра было б паразважаць, што гэты віртуальны Perpetuum mobile неверагодныя беларусы прыдумалі сабе самі. Але не. Вулічныя чаты (яны, дарэчы, існуюць не толькі ў Мінску — па ўсёй краіне) — гэта не чарговае геніяльнае вынаходніцтва беларускіх айцішнікаў. Яны выспелі арганічна-лагічна — і на загадзя падрыхтаванай глебе. Узраслі з самага маленькага грамадскага зерня — чацікаў, што даўно пачалі ствараць сабе ўдзельнікі жыллёвых таварыстваў і кааператываў. І вось тут сапраўды ёсць сэнс пагаварыць пра нейкае суверэннае ноу-хау.

Чаты на базе ЖБТ ствараліся выключна для практычных мэтаў. Пабудаваць шлагбаум на паркінгу, падняць пытанне з рамонтам ці мантажом дзіцячай пляцоўкі, арганізавацца на суботнік, бо нешта зашмат смецця і пустазелля навокал. Не збірацца ж кожны раз сход — у інтэрнэце ўсё хутчэй, зручней і больш тэхналагічна. Датычныя кожнага, гэтыя пытанні паўсядзённасці актыўна абмяркоўваліся, спараджалі дыскусіі і тушыліся выніковым галасаваннем. Вердыкт большасці абскарджванню не падлягаў.

Дык вось у гэтым і палягае сутнасць: бяскрыўдныя чацікі для вырашэння побытавых праблем спакваля сталі выспамі дэмакратыі ў недэмакратычным беларускім соцыуме. Дзесьці за межамі тваёй вайбер-суполкі — дыктат адміністрацыі, ідэалагічныя цыркуляры, дырэктыўная падпіска на дзяржаўную прэсу… І ўсё тое астатняе, што падае на цябе зверху і на што ты не можаш паўплываць. Уключаючы выбары — мясцовыя, парламенцкія ці прэзідэнцкія — вынікі якіх лёгка спрагназаваць задоўга да часу ікс.

Затое ў межах роднага жыллёвага кааператыва ўсё інакш — тут твой голас чутны і мае вагу, тут тваю волю паважаюць, а твая свабода не абмяжоўваецца ўнутранымі страхамі. І старшыня таварыства, калі што, з дручком у кватэру не прыйдзе. Бо ён, старшыня, табой жа і абраны, згодна са статутам. Будзе зашмат пра сябе думаць — то можна абраць і каго іншага.

Нядаўна на адным з тэлеканалаў выходзіў рэпартаж якраз пра дамавыя чаты. Ясны перац — кантэкст быў палітычны, а інтанацыі крытычныя. Маўляў, вывешваюць жыхары бел-чырвона-белыя сцягі, псуюць фасады іншай дэструктыўнай графікай дый увогуле не той справай займаюцца. Самым красамоўным у тым сюжэце быў каментар кіраўніка таварыства, які ці не прамым тэкстам сказаў, уздыхнуўшы: «Я — наняты жыхарамі дома менеджар…» І як быццам развёў рукі — загадваць нікому не магу.

Яшчэ больш красамоўнай была рэакцыя на «выкрывальніцкі» тэлерэпартаж — да таго самага «нехарошага» чату, падзякаваўшы роднаму ТВ, хуценька дадалася сотня новых карыстальнікаў.

Так, наняты менеджар — гэта не тая манументальная цётка з «Брыльянтавай рукі», што ўладна распаўсюджвала квіткі сярод «жыльцоў нашага ЖЭСа». (Памятаеце? «Калі не будуць браць — адключым газ»). Наняты — гэта той, хто адказвае перад наймальнікам. У выпадку з ЖБТ — перад жыхарамі-грамадзянамі, а не перад вышэйстаячым кіраўніцтвам, як заведзена паўсюль.

Таму і дэмакратыя — з мінімальнай прысутнасцю чыноўнікаў мікраараёна. Таму і свая палітыка, дзе прага да пераменаў дамінуе. І свая эканоміка, калі трэба на нешта скінуцца і патраціцца. І свая сацыялогія, бо любое пытанне лепш за ўсё «пусціць на галасы». І нават свая культура — з пратэставымі мураламі, дзіцячымі дыскатэкамі, канцэртамі жывой музыкі і без аніякай «саладухі».

Цяжка сказаць, чым скончацца ў Беларусі працэсы, запушчаныя 9 жніўня. І чаго яны ў выніку будуць нам каштаваць. Але дакладна можна сцвярджаць іншае: вось гэтую актыўнасць двароў, іх салідарнасць, узаемадапамогу і веру ў лепшае, ужо не спыніць і не стрымаць.

Сваю маленькую нізавую дэмакратыю беларусы не аддадуць. Як і адчуванне таго, што за гэтым будучыня, якая ўсё бліжэй і бліжэй.

# «Гэта не суверэннае рашэнне беларускага боку»

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускае міністэрства замежных спраў даволі «асіметрычна» адказала на прыняцце Еўрасаюзам санкцый супраць беларускіх чыноўнікаў.**

Найперш, МЗС адклікала «для кансультацый» сваіх амбасадараў з Вільні і Варшавы. Другі крок — прапанаваў скараціць колькасць работнікаў амбасадаў Польшчы і Літвы. Паколькі гэта было ў форме прапановы, Варшава з Вільняй заявілі, што нікога скарачаць не будуць. На што МЗС адказала: падобныя «прапановы» абавязковыя для выканання.

А ўвогуле было заяўлена, што "далейшая раскрутка ЕС "санкцыйнага махавіка" можа прывесці да яшчэ больш сур'ёзных наступстваў, напрыклад, выхаду Беларусі з сумесных праграм і праектаў, перагляду ўзроўню і мадальнасці дыпламатычнай прысутнасці аж да рашэння аб мэтазгоднасці захавання дыпламатычных адносін».

Дзеянні МЗС увогуле не падобныя на тое, што павінна рабіць гэтая структура. Замест наладжвання кантактаў гэтае ведамства, наадварот, разбурае тое, што было з цяжкасцю напрацавана за апошнія часы. Прынамсі, нельга не прызнаць, што ў гэтай структуры ці разрывам дыпламатычных адносінаў. А «выхад Беларусі з сумесных праграм і праектаў» нанясе шкоду, у першую чаргу, нам.

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) у 2019 годзе ўклаў больш за 390 мільёнаў еўра ў 24 праекты ў Беларусі. Самым буйным з іх стаў крэдыт у памеры 126 мільёнаў еўра на рэканструкцыю 12 мастоў, якія з такім імпэтам увесну адкрываў Лукашэнка. ЕБРР таксама даў звыш 42 мільёнаў еўра на мадэрнізацыю водаканалаў у розных гарадах Беларусі.

Еўрапейскі інвестыцыйны банк у 2019 годзе павялічыў інвестпартфель у Беларусі да 550 мільёнаў еўра. Грошы былі накіраваныя на рэканструкцыю аўтадарогі М7/Е28 Мінск — Ашмяны — літоўская мяжа (Каменны Лог), мадэрнізацыю аб'ектаў водазабеспячэння і падтрымку рэформаў у ЖКГ.

У 2019 годзе Сусветны банк выдзеліў каля 300 мільёнаў долараў. Гэтыя грошы павінны былі пайсці на аптымізацыю энергакарыстання і ў сферу адукацыі і ЖКГ.

«Выхад з праектаў», якім так пагражае МЗС Беларусі, толькі па лініі трох еўрапейскіх банкаў прывядзе да страты Беларуссю больш мільярда (!) долараў.

## «Канстатацыя дыягназу»

Няўжо гэтага не разумеюць у МЗС? Міжнародны аглядальнік Раман Якаўлеўскі называе такія крокі знешнепалітычнага ведамства Лукашэнкі «канстатацыяй дыягназу», і ўвогуле сумняваецца, што ўсе гэтыя захады — гэта суверэннае рашэнне беларускага боку.





Раман Якаўлеўскі

— Я ад дыпламатаў ужо чуў, што нашае МЗС — «міністэрства істэрычных спраў». Такі крок не быў чаканым, але гэта чарговая «дзіцячая нечаканасць». Нечаканасць бесперспектыўная. Гэта сведчыць яшчэ і пра тое, што ў сітуацыі, якая склалася, МЗС увогуле не патрэбны. Усё вырашаецца, гледзячы па ўсім, у Маскве. І МЗС як інстытут суверэннай дзяржавы цяпер проста не патрэбны.

*— Па-мойму, такія эмацыйныя захады больш у стылі Лукашэнкі. Ці сапраўды Расія дыктуе беларускаму МЗС?*

— А хто? Той, хто не кажа ўслых, не азначае, што ён адсутнічае. А Лукашэнка выконвае проста гукавую функцыю — ён агучвае антызаходнія істэрыкі. Мы проста на часе бачым, што такая істэрыка з'явілася, калі стала вядома, што Ціханоўская сустракаецца з Меркель.

Я міжволі згадаў словы Зянона Пазняка. 10 гадоў таму ў Празе быў першы саміт Усходняга партнёрства, — тады была дыскусія, павінна ва УП удзельнічаць Беларусь, або не, — Пазняк тады выступіў у «Газеце выборчай» з артыкулам, у якім напісаў, што, запускаючы Лукашэнку ва Усходняе партнёрства, вы запускаеце «траянскага каня». Заява нашага МЗС сведчыць пра тое, што Пазняк меў рацыю.

*— Еўрапейскія праекты, у тым ліку і Усходняе партнёрства, у дачыненні да Беларусі будуць згорнутыя?*

— Думаю, што так. А як? Усходняе партнёрства, хутчэй за ўсё, будзе перафарматаванае. Там ужо ішла размова пра тое, каб асобна вылучыць тры краіны, у якіх ёсць пагадненне з Еўрасаюзам — Украіна, Грузія, Малдова, і тры аўтсайдары, сярод якіх Беларусь.

Што тычыцца работы амбасадаў — больш чым відавочна, што ўзровень іх будзе паніжаны да часова павераных. Напрыклад, у амбасадара Літвы, наколькі я ведаю, заканчваецца тэрмін перабывання ў Беларусі. Пры такой сітуацыі разлічваць на атрыманне агрэману новаму літоўскаму паслу проста не выпадае. Праўда, гэта справа таго боку, на колькі прызначаць амбасадара, але звычайна на чатыры гады.

Будзе зніжана альбо скарочана колькасць персаналу амбасадаў, і ніхто ўжо не згадвае пра амерыканскага амбасадара, які, па некаторых звестках, у гэтай сітуацыі не прыедзе.

*— Але Вільнюс і Варшава заявілі, што не будуць зніжаць колькасць супрацоўнікаў па «рэкамендацыі» беларускага боку…*

— Гэта пакажа толькі далейшае развіццё сітуацыі. А гэтае развіццё будзе не па лепшым сцэнары, хаця я не магу сказаць, што гэта будзе.

Дарэчы, цяпер адсутнічае беларускі амбасадар у Кіеве. Я сітуацыю называю адной фразай: з донара рэгіянальнай бяспекі афіцыйны Мінск ператвараецца ў дэтанатар рэгіянальнай бяспекі.

*— Пра Мінск як пра пераможную пляцоўку па Данбасе можна забыцца?*

— Хутчэй за ўсё, яна будзе замарожаная. Пры такіх адносінах з Кіевам — як бачыцца праца гэтай групы? Ніяк. Мінск выступаў раней у ролі міратворцы, але саюзнік агрэсара міратворцам быць не можа.

*— Простых беларусаў хвалюе візавае пытанне. Ці захоўваецца магчымасць атрымаць шэнгенскія візы па 35 еўра?*

— Цяпер хоць 10 еўра рабі кошт візы, ёсць такі фактар, як covid. Можна мець візу, але выехаць нікуды немагчыма. Што ж тычыцца фармальнага боку, я думаю, нейкім чынам гэты працэс таксама замарозіцца. Дыпламатычная вайна, што пачалася, можа закрануць і прадстаўніцтва Еўракамісіі ў Мінску. Гэтая структура можа прыйсці ў непрацоўны стан.

Вільня і Варшава шукаюць іншыя выйсці: двухбаковая аснова, актывізацыя нацыянальных візаў, гуманітарныя і сацыяльныя калідоры. На мой погляд, не вельмі далёкая перспектыва — узнікненне безвізавага рэжыму з Украінай.

*— Беларускі МЗС заявіў, што будуць разглядаць сітуацыю «аж да рашэння мэтазгоднасці дыпламатычных адносінаў»…*

— Гэта вельмі дурное заплохванне. Да нядаўняга часу ў амерыканскай амбасадзе было 5 чалавек, функцыі амбасады былі вельмі абмежаваныя — гэта больш рэальна. Тое, што кажацца пра разрыў дыпламатычных адносінаў — то я хацеў бы пагля дзець, хто каму гэтым пагражае ці рэальна можа пагражаць.

Гэтая рыторыка нагадвае паводзіны паўночнакарэйскага лідара. Але ў яго ёсць атамная бомба. Што тычыцца Лукашэнкі, у яго хутка будзе атамная станцыя.

*— Калі ўжо мы закранулі Паўночную Карэю, ці магчыма ўвогуле ператварыць дзяржаву ў цэнтры Еўропы ў падабенства Паўночнай Карэі?*

— Канешне, як Паўночная Карэя, немагчыма, але прыкметы гэтага — я маю на ўвазе паводзіны з інтэрнэтам, — яны па свайму характару вельмі нагадваюць. І шматлікія рэчы, якія яшчэ нядаўна, да жніўня 2020 года мы нават уявіць сабе не маглі, цяпер рэалізаваныя. У першую чаргу я б казаў пра СМІ.

Рашэнне МЗС пра ануляванне акрэдытацый замежных СМІ — гэта таксама паводзіны, што нагадваюць Паўночную Карэю. Я б сказаў, што паміма covid Беларусь аказалася падверажанай паўночнакарэйскаму вірусу.

*— Але ж жыхары Паўночнай Карэі выжываюць выключна за кошт гуманітарнай дапамогі…*

— Такога ў Беларусі, я думаю, не здарыцца, але я згодны, што нас чакае вельмі цяжкі эканамічны крызіс. Гэта відавочна, таму што часцяком блытаюць дзве рэчы. Калі наш прэм'ер кажа, што «нічога страшнага, у нас эканамічны рост паўтара працэнта ВУП» і гэтак далей, то ў мяне адчуванне, што яны блытаюць паняцці «рост» і «развіццё». Рост можа быць, але развіццё тармозіцца. Развіцця няма, а менавіта дзякуючы развіццю можна мінімізаваць альбо пазбегнуць эканамічнага крызісу. Але чакаць гэтага не выпадае.

Прычым, гэта не мае заключэнні, — я звяртаюся да сумеснай заявы Рэспубліканскага саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў (РСПП) і Бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў (БСПН) імя Куняўскага. У іх сумеснай заяве канстатуецца, што пры сённяшняй палітыцы перспектыў няма. А калі няма перспектыў, значыць, будзе крызіс. Прычым, як кажа правадыр, «жэстачайшы» крызіс.

## Што кажа бізнес?

Прадстаўнікі згаданых Якаўлеўскім бізнес-саюзаў заявілі пра рэзкае пагаршэнне ўмоваў гаспадарання і рост макраэканамічных рызыкаў у апошнія паўтара месяцы. Аж да таго, што бізнес «вымушаны паставіць пытанне пра эканамічную бяспеку краіны, як папярэдніка пытання суверэнітэту», адзначыў кіраўнік РСПП Аляксандр Швец.

Бізнес-саюзы канстатуюць факты невыканання правоў і свабодаў чалавека, разбалансаванасць палітычных інтарэсаў грамадзян, грамадскіх аб'яднанняў і дзяржавы, удар па іміджу Беларусі як дэмакратычнай прававой дзяржавы, адказнага і прадказальнага партнёра. З аднаго боку, уздзеянне на эканоміку пандэміі covid, а з другога — падзеі на фоне кампаніі па выбарах прэзідэнта і пасля яе, стварылі ўмовы «ідэальнага шторму».

Бізнес-саюзы звяртаюць увагу, што рэзка пагоршыўся маральна-псіхалагічны клімат у працоўных калектывах. А гэта наўпрост уплывае на прадукцыйнасць працы. Шматлікія кампаніі задумаліся наконт рэлакацыі альбо ўжо пераносяць актывы ў іншыя краіны. Беспрэцэдэнтная сітуацыя сацыяльнай напружанасці, якая склалася ў краіне, наносіць непапраўны ўдар па эканоміцы

«З-за непрыняцця своечасовых мераў скарачаюцца інвестыцыйныя патокі ў беларускую эканоміку, кампаніі-партнёры з іншых краінаў спыняюць здзелкі. Многія прадпрымальнікі, асабліва ці тыя, якія прадстаўляюць інтэлектуальна ёмістыя галіны, заяўляюць пра рэлакацыю бізнесу і змену падатковага рэзідэнцтва, прыпыненне праектаў, што рэалізуюцца з удзелам дзяржструктур», — адзначаюць бізнес-саюзы.

Адчувае шэраг сістэмных праблем банкаўскі сектар. Сітуацыя пагаршаецца зніжэннем суверэннага крэдытнага рэйтынгу Беларусі міжнароднымі рэйтынгавымі агенцтвамі і панічнымі настроямі на валютным рынку.

Пра гэтыя і іншыя праблемы бізнес-саюзы інфармавалі ўрад яшчэ ў жніўні. Аднак спробы наладзіць дыялог з органамі дзяржкіравання не прывялі да поспеху: замест выпрацоўкі дарожнай карты па ўрэгуляванні крызісных з'яваў у эканоміцы, у краіне толькі ўзмацніўся рэпрэсіўны ціск на прадпрыемствы прыватнай формы ўласнасці.

РСПП і БСПН заяўляюць пра важнасць прыняцця неадкладных мераў і дзеянняў па аднаўленні дыялогу і зніжэнні сацыяльнай напружанасці ў грамадстве з дапамогай выпрацоўкі «дарожнай карты», уключаючы **правядзенне эканамічных і палітычных рэформаў** (вылучана НЧ).

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэвалюцыя, як і развод, — не падзея, а працэс

**Беларусам трэба будзе навучыцца жыць без уладнай вертыкалі. Гэта задача прынцыпова іншага ўзроўню складанасці. Яна не палітычная, а сацыякультурная.**




Так званыя «выбары» паслужылі ў Беларусі трыгерам (падзеяй, якая запускае пэўную эмацыйную рэакцыю), што перавёў беларускае грамадства з паўсоннага стану ў стан палітычнага ўзбуджэння.

Схаваныя на працягу чвэрці стагоддзя праблемы ў лічаныя дні агаліліся. Але адэкватнай мовы іх апісання пры гэтым не ўзнікла ні ва ўлады, ні ў пратэстоўцаў.

## «Мы ведаем, мы разумеем, мы...»

Адзінае, на што аказалася здольная ўлада з усёй сваёй прапагандысцкай абслугай, — гэта выцягнуць з запаснікаў тэорыю змовы. Да 9 жніўня, з-за адсутнасці празаходняга кандыдата ад апазіцыі, на ролю галоўнага змоўшчыка была прызначаная «наша Расія». «Вагнераўцы», што не зразумела, якім ветрам былі занесеныя ў Сінявокую, аказаліся ў той момант вельмі нават дарэчы. Калі б іх не было, іх варта было б прыдумаць.

5 жніўня ў інтэрв'ю ўкраінскаму журналісту Дзмітрыю Гардону адзіны палітык (АП) прадэманстраваў сваю кампетэнтнасць: «Мы бачылі, з кім яны звязаныя. Мы кантралявалі іх цалкам. Мы ведаем, з кім яны стэлефаноўваліся, адкуль атрымлівалі каманды — з Расіі, хто даваў гэтыя каманды. Мы ўжо бачылі, што тут чымсьці смажаным пахне. Мы разумелі ў кантэксце міжнародных стасункаў, што нам спакойна жыць не дадуць».

Пасля 9 жніўня ўсе гэтыя «мы бачылі», «мы кантралявалі», «мы ведаем» і «мы разумеем» страцілі сваю актуальнасць. Расія, у адрозненне ад Захаду, вынікі «выбараў» прызнала.

Давялося тэрмінова разварочвацца праз левае плячо на 180 градусаў, ды працягваць пры гэтым дэманстраваць гораду і свету сваю кампетэнтнасць: «...мы выразна бачым суб'ектаў гэтага працэсу, іх правадыроў і памагатых. Тактыка арганізатараў будавалася паводле класічнага амерыканскага падручніку каляровых рэвалюцый. Гэта ўсім вядомы Джын Шарп. Цяпер мы можам азірнуцца назад і дэталёва разабраць усе этапы сцэнару па знішчэнні нашай краіны, якому мы, на шчасце, не дазволілі рэалізавацца, і не дазволім».

Мы, мы, мы... вось такія мы малайцы!

Гэты геапалітычны разварот нагадаў мне анекдот пра інжынера, які пераканаўча тлумачыў прычыну росту паказчыка на графіку. Калі ж яму заўважылі, што ён трымае графік дагары нагамі, ён гэтак жа пераканаўча пачаў тлумачыць прычыну зніжэння паказчыка.

Але ад анекдота прапаную перайсці да гістарычнага факта, які я запазычыў з кнігі палітычнага географа Дзмітрыя Арэшкіна «Джугафілія і савецкі статыстычны эпас»: «У 1929 г. СССР рыхтаваўся адзначыць пяцідзесяцігадовы юбілей І.В. Сталіна. Буйному тэарэтыку ваеннай справы Кліму Варашылаву даручаны ганаровы абавязак напісаць артыкул "Сталін і Чырвоная Армія". Ён вельмі стараецца. І, мабыць, ад хваляванння дазваляе сабе недапушчальны для марксіста-ленінца промах. "У І. В. Сталіна, — піша Варашылаў, — памылак было менш, чым у іншых". Трэба ж было ляпнуць такое! Дзякуй богу, тав. Сталін пры ўсёй загружанасці знайшоў час уважліва прачытаць тэкст і выратаваць гісторыю ад скажэнняў, а Варашылава — ад ганьбы. "Клім! Памылак не было. Трэба выкінуць гэты абзац", — па-бацькоўску тлумачыць ён на палях рукапісу».

## Ад прыроднай мудрасці да апоры на народ

Памылак не было. Іх не было, таму што іх не магло быць. Вось такая жалезная логіка. Гэта на загніваючым Захадзе палітыка — суцэльная чарада памылак. Нам жа з першага дня (варта адлічваць ад 10 ліпеня 1994 года) давялося рухацца адзіна правільным курсам.

Але дзе гарантыя правільнасці курсу? Не буду вынаходзіць ровар. У Беларусі хапае аўтарытэтных спецыялістаў. Старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, доктар эканамічных навук, прафесар, акадэмік Уладзімір Гусакоў — адзін з іх. Сваё бачанне галоўнай асаблівасці беларускага шляху акадэмік не трымае ў сакрэце.

У Беларусі пасля развалу СССР пачыналася ўсё як ва ўсіх: адмова ад грамадскага сектара, насаджэнне прыватных парадкаў, страта кваліфікаваных кадраў, маштабная дэградацыя эканомікі і імклівае падзенне якасці жыцця.

«Пералом, — тлумачыць акадэмік, — наступіў у 1994–1995 гадах, калі прэзідэнтам краіны быў абраны А. Р. Лукашэнка», які коштам неверагодных намаганняў здолеў «спачатку прыпыніць дэградацыю і спаўзанне краіны ў прорву, а затым у гістарычна кароткія тэрміны павярнуць яе развіццё ў ствaральнае рэчышча».

Геракл са сваімі 12 подзвігамі тут і побач не стаяў. Але Геракл быў сынам галоўнага з багоў-алімпійцаў Зеўса, у непасрэдным падпарадкаванні якога знаходзіліся неба, гром і маланкі. Максімум, на што герой грэчаскай міфалогіі аказаўся здольны — гэта накіраваць у «стваральнае рэчышча» воды ракі, якая працякала недалёка ад стайні цара Аўгія.

Мерацца характарыстыкамі з антычным героем — справа няўдзячная. Але хто сёння будзе адмаўляць, што Беларусь выклікае зайздрасць у суседзяў? Каму ў наш бурны час спадабаецца донар еўрапейскай стабільнасці, што мірна калышацца ў стваральным рэчышчы?

Аднак многія раілі як мага хутчэй пакончыць са старым укладам. Што ж утрымала АП ад рэформаў, якія вядуць Беларусь да разбурэння, а ў перспектыве — да поўнага знікнення? На думку акадэміка Уладзіміра Гусакова, асабістыя якасці АП. Прывяду далёка не поўны іх пералік: «прыродная мудрасць і інтуіцыя, выключная працаздольнасць і праніклівасць, а яшчэ — апора на народ і велізарны давер народа, які захаваўся да гэтага часу».

**Рэвалюцыя, як і развод, з'яўляецца не падзеяй, а працэсам. Улетку 2020 года рэвалюцыя ў Беларусі стартавала. Як доўга яна працягнецца? Адказ на гэтае пытанне будзе залежаць ад нашай здольнасці ствараць установы (структуры грамадзянскай супольнасці)**

## Парадак б'е клас

Калі трыгер, што спрацаваў 9 жніўня, дазволіў уладзе выцягнуць з запаснікаў старую як свет тэорыю змовы, то ўзбуджанаму грамадству ён дапамог па-новаму зірнуць на палітычныя міфы, якія фарміраваліся чвэрць стагоддзя.

Пра тое, што грамадская свядомасць заражаная міфамі, як кампутар вірусамі, я пісаў неаднаразова. У айчынным міфалагічным эпасе па-за канкурэнцыяй быў міф пра «Плошчу», або міф пра «100 тысяч».

Практыка — крытэр ісціны, і яна міф пра «Плошчу» разбурыла. Вера ў "Плошчу" — гэта вера ў магчымасць за кошт аднаразовага намагання прачнуцца ў іншай краіне. Але так не бывае. Паглядзіце на Украіну. У 2004 годзе «Аранжавая рэвалюцыя» перамагла. Ура, таварышы! Але ці перамагла насамрэч?

Спачатку неабходна ўсвядоміць праблему. Насуперак уяўленням многіх беларусаў, праблема не зводзіцца да змены персоны на вяршыні ўладнай вертыкалі. Вертыкаль — гэта атрыбут мінулага стагоддзя, атрыбут савецкага варыянта індустрыялізацыі з яе масавай вытворчасцю... узбраенняў.

Сучасны дынамічны свет аддае перавагу арганізацыі грамадства не па вертыкалі, а па гарызанталі. Ён не мае патрэбы ў правадырах, здольных, нібы Кашпяроўскі, поглядам спыняць дэградацыю нацыянальных эканомік і падзенне жыцця народаў.

Беларусам трэба будзе навучыцца жыць без уладнай вертыкалі. Гэта задача прынцыпова іншага ўзроўню складанасці, і, па вялікім рахунку, яна не палітычная, а сацыякультурная.

Каб увайсці ў сучаснасць, беларусам хапае чалавечага капіталу (адукацыі). Галоўная праблема — дэфіцыт сацыяльнага капіталу, г. зн. здольнасці да сумесных дзеянняў.

Парадак б'е клас. У якасці ілюстрацыі гэтай ісціны спашлюся на вядомы гістарычны прыклад: сотня французскіх кавалерыстаў не баялася сотні мамелюкоў; трыста французаў бралі верх над такой жа колькасцю мамелюкоў, а 1000 разбівала 1500.

І яшчэ адзін прыклад, гэтым разам запазычаны ў расійскага эканаміста Аляксандра Аузана: «Гэта гістарычна вядомы факт пра тое, як Міхаіл Сперанскі, рускі рэфарматар, вярнуўся з Еўропы і сказаў: "Гасудар, у іх установы лепшыя за нашыя, а ў нас людзі лепшыя"».

Гэта наш выпадак. У іх (ва ўладзе) установы лепшыя. Адзін ЦВК чаго варты! Не ў апошнюю чаргу дзякуючы яму мы сёння маем тое, што маем.

***

Рэвалюцыя, як і развод, з'яўляецца не падзеяй, а працэсам. Улетку 2020 года рэвалюцыя ў Беларусі стартавала. Як доўга яна працягнецца? Адказ на гэтае пытанне будзе залежаць ад нашай здольнасці ствараць установы — структуры грамадзянскай супольнасці.

# «Варажу, варажу, а пра ўсё не раскажу»

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Беларускі ўрад мог бы, у прынцыпе, заявіць, як Сакрат: «Я ведаю толькі тое, што нічога не ведаю». Аднак ад яго патрабуюць іншага. І таму ва ўрадзе ідзе маштабны разумовы працэс: рыхтуецца адначасова і прагноз развіцця краіны на наступны год, і бюджэт на той жа тэрмін.**

## Бюджэт 2020

Найперш, урад пакуль не можа разабрацца з паказчыкамі на гэты, 2020 год. Сёлетні бюджэт быў прыняты з планавым дэфіцытам у 995,1 мільёна рублёў (0,7% ВУП). Асноўнай праблемай стваральні галоўнага фінансавага дакумента краіны лічылі падатковы манеўр Расіі. Але да падатковага манеўру дадаліся эпідэмія каронавіруса, абрыванне кошту нафты, унутрыпалітычныя праблемы, якія выклікалі фінансавую нестабільнасць... У выніку Мінфін закрыў 8 месяцаў 2020 года з дэфіцытам у памеры 1,54 мільярда рублёў.

Удакладнены план па дэфіцыце рэспубліканскага бюджэту цяпер складае 2,2 мільярда рублёў — гэта ў лепшым выпадку. Па больш крызісным сцэнары дэфіцыт бюджэту ў 2020 годзе можа дасягнуць 5 мільярдаў рублёў.

У верасні тады яшчэ намеснік міністра фінансаў Андрэй Белкавец паведамляў, што ў асноўным сцэнары паводзінаў перавышэнне выдаткаў над даходамі ў 2020 годзе складзе 3 мільярды рублёў. Але ў Мінфіна, па яго словах, яшчэ былі рэшткі сродкаў, назапашаных раней за кошт прафіцытных бюджэтаў мінулых гадоў. Паводле звестак чыноўніка, на рахунках Нацбанка гэтыя рэшткі дасягалі 6 мільярдаў рублёў. Імі і плануюць закрыць «дзірку ў бюджэце».

З аднаго боку, з назапашанымі сродкамі мы павінны пратрымацца да канца года. Аднак даходная частка беларускага бюджэту складае крыху больш за 24 мільярды рублёў. Атрымліваецца, што дэфіцыт бюджэту ў нас перавышае 20% сродкаў?

Доктар эканамічных навук, прафесар Барыс Жаліба ў той жа час адзначае — «рэзервовыя» 6 мільярдаў рублёў у нас ёсць толькі па словах чыноўнікаў. І ніхто не ведае, ці засталіся ў нас гэтыя грошы, ці яны ўжо на нешта выдаткаваныя. Апроч таго, пры пакрыцці дэфіцыту ў 5 мільярдаў за кошт назапашаных сродкаў у нас застаецца «ў кубышцы» толькі адзін мільярд рублёў.

«Белкавец сваю пасаду ўжо пакінуў, замест яго прыйшоў іншы чалавек. Але мільярда, ды яшчэ беларускіх рублёў, нам ні для чаго не хопіць. А сітуацыя ўскладняецца тым, што мы, апроч Расіі, пазычыць грошы ні ў каго не можам. Заходні вектар для нас практычна закрыты. Мінфін, канешне, планаваў размяшчэнне там сваіх аблігацый, але гэта будзе вельмі праблематычна. Нават калі іх і купяць — то толькі пад супервысокую даходнасць, якую мы не пацягнем. Сёння з нашым рэйтынгам з даходнасцю менш за 9–10% гадавых нашы аблігацыі ніхто не возьме, а раней мы іх размяшчалі пад 6–7% гадавых. Такім чынам, застаецца толькі Расія, у якой сваіх праблемаў хапае. Таму сітуацыя вельмі напружаная», — кажа Жаліба.




Наколькі ў нас складаная сітуацыя з бюджэтам, можна зразумець па іншых падліках. Па словах эканаміста, параўнанне даходнай часткі бюджэту і дэфіцыту не вельмі карэктнае. Больш слушна лічыць бюджэтны дэфіцыт у тых жа працэнтах ВУП. Пры гэтым дэфіцыт бюджэту ў 3% ВУП лічыцца крайне крытычнай лічбай.

«У нас у мінулым годзе ВУП краіны склаў 132 мільярды рублёў. Такім чынам, 3% ВУП — гэта 3,96 мільярда рублёў. 5 мільярдаў дэфіцыту — гэта больш, чым 3%, гэта вельмі кепска», — зазначае адмысловец.

Таму, нават калі сёлета дэфіцыт закрыюць, у нас не застанецца падобнай «падушкі бяспекі» на пачатак 2021 года. І перспектывы ў такім выпадку — вельмі кепскія.

## Прагноз 2021

Выказванні наконт бюджэту наступнага года і прагнозу развіцця краіны на той жа наступны год пакуль прыходзяць даволі супярэчлівыя. Першы раз публічны разгляд афіцыйнага прагнозу на 2021 год адбыўся 21 ліпеня. Тады Саўмін выпраменьваў аптымізм: прэм'ер Галоўчанка казаў пра аж 3,5% росту ВУП. Крыніцы плануемага росту ў ліпені ўрад размяркоўваў так: 1,9% дасць знешні попыт (экспарт), а 1,6% — унутраны попыт (спажыванне). Вядучую ролю чыноўнікі адвялі знешняму попыту.

Пры гэтым Галоўчанка аптымістычна спадзяваўся, што і ў 2020 годзе можна не дапусціць правалу эканомікі і звесці падзенне ВУП да нуля. У ліпені прэм'ер даручаў Мінэканомікі «творча падысці да фарміравання наменклатуры таварных балансаў на наступны год, дапоўніць яе канкурэнтаздольнымі пазіцыямі». На думку Галоўчанкі, такім шляхам можна было забяспечыць гэтыя самыя 3,5% ВУП у 2021-м.

Але з тых часоў сітуацыя кардынальна змянілася: у жніўні Нацбанк страціў рэкордную суму з ЗВР, насельніцтва і прадпрыемствы кінуліся забіраць дэпазіты з банкаў, скупляць валюту, суседзі Беларусі па рэгіёне не прызналі вынікі выбараў, што прывяло да адкату кацировак беларускіх еўрабондаў да шматмесячных мінімумаў, еўрапейскія крыніцы грошай «перасохлі», і гэтак далей. Відавочна, што пра +3,5% ВУП давядзецца забыцца.

**«Калі гарыць хата, як магчыма думаць пра прагнозы на пяцігодку? Рашэнне цяпер трэба прымаць на бліжэйшы год, прычым — рашэнне, як выйсці з палітычнага крызісу. А пакуль не вырашыцца гэтая праблема, думаць пра нешта іншае не даводзіцца»**

1 кастрычніка Саўмін абмеркаваў абнулены прагноз на 2021 год. Цяпер міністры запланавалі рост ВУП на 1,8% — удвая менш, чым раней. Гэтым разам Галоўчанка нават не канкрэтызаваў, за кошт чаго складуцца гэтыя даволі сціплыя прагнозныя паказчыкі — размеркавання па ўнутраным і знешнім попыце не прагучала. Магчыма, ва ўрадзе самі не ведаюць, як пойдуць справы ў 2021 годзе.

У той жа час міністр фінансаў Юрый Селіверстаў сказаў, што ў 2021 годзе бюджэт зноў будзе з дэфіцытам, і назваў гэта «нармальнай практыкай». Праўда, пры гэтым прызнаўся, што дакладныя памеры дэфіцыту бюджэту невядомыя. Але выказаў здагадку, што ён будзе не меншы, чым у Расіі, а ў Расіі дэфіцыт бюджэту закладзены на ўзроўні 2% ад ВУП.

## Зноў — не па сродках

Самае цікавае тут — разыходжанне ў лічбах Галоўчанкі і Селіверстава. Атрымліваецца, што прагноз павелічэння ВУП у наступным годзе ў 1,8% будзе менш, чым дэфіцыт бюджэту ў 2%.

На думку Барыса Жалібы, гэта азначае, што мы працягваем «жыць не па сродках». «Такі рост ВУП нікога не задавальняе. Мы з такім ростам ВУП ні заробкі не павысім, ні з пазыковай піраміды не вылезем, нягледзячы на тое, што ўрад вясёлкава заяўляе, што мы заўсёды плацілі па пазыках», — кажа адмысловец.

У гэтым годзе частку знешняга доўгу нам рэфінансуе Расія, аднак, як лічыць эканаміст, нам усё роўна трэба думаць пра тое, як выплачваць знешнія пазыкі: «Нам трэба думаць, як вылезці з гэтых пазыкаў. Але і закладаць большы рост ВУП — гэта зноў планаваць відавочна невыканальны паказчык».

Адзінае, за што Жаліба можа пахваліць урад, — за «больш-менш рэалістычны падыход». «Яны не малююць на паперы недасяжныя лічбы. Але мы можам не дасягнуць і гэтага, бо ўжо бачна: 2020 год мы заканчваем з мінусам па ўсіх паказчыках, і галоўнае — будзе мінус у ВУП. Таму прырост ВУП 1,8%, калі ён будзе, — гэта яшчэ вельмі добра», — кажа Жаліба.

## Ці варта псаваць паперу?

Чым вырашыцца палітыка-эканамічны крызіс у Беларусі, прадказаць не бяруцца нават самыя моцныя экстрасэнсы. Дык ці варта цяпер ствараць нейкія планы? Можа, лепш хаця б часткова ўратаваць лясы Амазоніі ды не ствараць планаў развіцця ў такой ненадзейнай для прагнозаў сітуацыі? Тым больш, што бюджэт у нас пастаянна карэктуецца.

Паводле меркавання Барыса Жалібы, нейкі дакумент усё ж патрэбны: «Як будзе змяняцца бюджэт у наступным годзе — практыка пакажа. Але бюджэт прымаць трэба, павінен жа быць нейкі дакумент. Яго прымуць, але як ён будзе выконвацца па факце — вялікае пытанне».

А вось да прагнозу развіцця краіны на бліжэйшую пяцігодку, які агучваецца на кожным Усебеларускім народным сходзе (ён павінен прайсці неўзабаве), у адмыслоўцы іншае стаўленне. «Калі гарыць хата, я не ведаю, як магчыма думаць пра прагнозы на пяцігодку. Рашэнне цяпер трэба прымаць на бліжэйшы год, прычым — рашэнне, як выйсці з палітычнага крызісу. А пакуль не вырашыцца гэтая праблема, якая спарадзіла палітыка-эканамічны крызіс, думаць пра нешта іншае не даводзіцца», — кажа эканаміст.

Больш за тое, паводле яго назіранняў, той прагноз, які быў агучаны і прыняты на мінулым Усебеларускім народным сходзе, аказаўся поўнасцю праваленым. «Калі прааналізаваць мінулы пяцігадовы план — там нічога не выканана. Не выкананы рост ВУП, не выкананы рост вытворчасці працы, было закладзена давядзенне пенсій да 40% ад сярэдняга заробку па краіне — гэтага няма. Было, што квадратны метр жылля павінен каштаваць месячны заробак, — гэтага няма і блізка. Адзіны параметр, які выконваўся, — інфляцыя, гэта якраз заслуга Нацыянальнага банка. Але і сёлета пакуль інфляцыя 5,6%, а закладзеная гадавая інфляцыя — 5%. І не факт, што гэты паказчык мы таксама выканаем, бо дэвальвацыя беларускага рубля ідзе аж з сакавіка. Таму я стаўлюся да гэтага прагнозу дастаткова скептычна — няма нічога з таго, што там было напісана. Дык які сэнс пісаць на наступныя пяць гадоў?» — адзначае адмысловец.

Да гэтага варта дадаць: усе распрацаваныя ўрадам прагнозы перад іх прыняццем накіроўваюцца на візаванне Лукашэнку. У мінулым годзе Лукашэнка быў вельмі незадаволены «сціплымі» прагнознымі паказчыкамі на гэты, 2020 год, і ўрад быў вымушаны змяніць разлікі на тыя, што больш спадабаліся пакуль што кіраўніку Беларусі.

# «Калі ты зараз адсюль не «дзёрнеш»,

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Падчас пратэстаў у ноч з 9 на 10 жніўня Аляксандр Садоўскі атрымаў два кулявыя раненні і здолеў уцячы з імі ад АМАПу. Выпадковыя людзі давезлі яго да шпіталю, дзе мужчына знаходзіўся ў цяжкім стане, перанёс некалькі аперацый. Не было вядома, ці ён выжыў.**



Ілюстрацыйнае фота. АМАП страляе па людзях гумовымі кулямі. 9-10 жніўня. Фота Уладзя Грыдзіна, Радыё Свабода

У тэлеграм-канале «Беларусь головного мозга» 10 жніўня з'явілася паведамленне, верагодна, ад кагосьці з персаналу 4 гарадской клінічнай бальніцы.

«Уначы да нас прывезлі агняястрэл. Даставілі на асабістым аўто. Траўма была атрыманая на Кальварыйскай. Зараз малады чалавек знаходзіцца ў рэанімацыі ў цяжкім стане».

І далей — дыягназ: сляпое кулявое раненне правай паяснічнай вобласці. Сляпое баявое тарака-абдамінальнае раненне з пашкоджаннем узыходзячага і папярочна-абадковага аддзелаў тоўстай кішкі, страўніка, дыяфрагмы. Распаўсюджаны серозна-фібрынозны перытаніт, рэактыўная фаза. Адкрытыя аскольчатыя пераломы 9–10 рэбраў злева. Левабаковы гемапнеўматаракс. Удар правай ныркі. Траўматычны шок 2–3 ступені.

30 верасня тэлеграм-канал «Вольная Беларусь» апублікаваў звесткі пра Аляксандра Савіцкага (сапраўднае прозвішча мужчыны — Садоўскі), 1983 года нараджэння. Паведамлялася, што мужчына быў расстраляны ў ноч з 9 на 10 жніўня на вуліцы Кальварыйскай у Мінску. Атрымаў цяжкія раненні ў жывот і спіну. Быў дастаўлены ў 4-ю ГКБ на вуліцы Розы Люксембург. На наступны дзень яны спрабавалі наведаць параненага, але ў бальніцы паведамілі, што мужчына атрымаў вельмі цяжкія раненні і знаходзіцца ў коме. Далейшы лёс яго быў невядомы.

Неўзабаве ён сам выйшаў на сувязь і паведаміў, што з ім усё адносна ў парадку. «Новаму Часу» ўдалося паразмаўляць пра тое, што здарылася 9–10 жніўня, з героем трывожных паведамленняў зводак.

Аляксандр Садоўскі працуе кіроўцам. Увечары 9-га жніўня ён адзін пайшоў у бок цэнтра з Сухарава. У раёне Скрыганава-Кальварыйскай — узгадвае суразмоўца, — на процілеглы бок пад'ехаў аўтазак.

«Мы, чалавек 30, перайшлі на той бок. Пастаялі насупраць АМАПу, "пабрахалі". Потым шчыты рассоўваюцца — і чалавеку ў пяці метрах ад мяне прылятае з пампавіка, — распавядае Аляксандр. — Усе абураюцца, давай крычаць. Ну, праз хвіліну прыкладна і мне прыляцела. Пачалі разбягацца, я толькі павярнуўся — яшчэ адна куля, у паясніцу».

Пасля таго, як прыляцела другая куля ў спіну, Аляксандр

# «Дзень не спіш з-за крыкаў у калідорах, ноч не спіш з-за стогнаў»

**Руслана, бармэна аднаго з бараў на вуліцы Зыбіцкай у Мінску, затрымалі 9 жніўня ў дзве гадзіны ночы, калі ён вяртаўся з працы дадому. Наступныя трое сутак ён правёў на Акрэсціна. Руслан распавёў «Вясне», што адбывалася ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў з 9 па 12 жніўня.**



Фота www.spring96.org

**На просьбу хлопца, які побач знаходзіўся: «Я астматык, можна хоць бы балончык забраць?» адказвалі: «Здохнеш — не здохнеш, выжывеш — не выжывеш»**

## «Мы спыталі ў ДАІ, як нам прайсці, каб не затрымалі, а ў выніку нас затрымалі»

— Калі пачалася «заварушка» з боку Нямігі, я зразумеў, што на працы мне рабіць больш няма чаго. З сябрам, напарнікам, госцем бара і дзяўчынай мы сабралі рэчы і пайшлі дадому. Да мітынгу і да ўсяго, што там адбывалася, мы не падыходзілі. Мы пайшлі ў бок дома па вуліцы Інтэрнацыянальнай, спецыяльна ў абыход таго піка. Але ўсё роўна вакол было шмат супрацоўнікаў АМАПу і міліцыі. Каля «Журавінкі» мы спыталі ў ДАІ, як нам лепш аб'ехаць і абысці, выклікаць таксі, каб нас не затрымалі. Ён не тое, каб з яхіднай усмешкай, але з прыемным выглядам правудзіў у бок парку Янкі Купалы. І ў цёмнай арцы мяне проста пацягнуў пад руку супрацоўнік АМАПу. На пытанне, якая прычына затрымання, ён нічога не адказваў. Мы проста спыталі ў даішніка, як нам прайсці, каб не затрымалі, а ў выніку нас затрымалі. Я спрабаваў растлумачыць яму сітуацыю, што я іду з працы, але, натуральна, гэта нікога не хвалявала.

## «Мне ўсё роўна. Запускай усіх»

— Нас завялі ў жоўты аўтобус, дзе знаходзілася яшчэ каля 30–40 чалавек. Мы не супраціўляліся, калі нас затрымлівалі, ніякіх супрацьпраўных дзеянняў не здзяйснялі. Спакойна прайшлі. Я амапаўцу спрабаваў растлумачыць сітуацыю, ён толькі адказваў: «Разбярэмся, не хвалюйцеся, усё будзе нармальна».

Праз 15 хвілін пад'ехаў аўтазак. Нас вывелі з аўтобуса, паставілі да сцяны, сказалі падняць рукі над галавой і вось так стаяць. З аўтазака выйшаў вельмі агрэсіўны супрацоўнік АМАПу, які з мацюкамі стаў закідваць затрыманых у аўтазак. Дзяўчат адпусцілі. Каля сценкі нас засталося чацвёра: я, напарнік, госць бара і нейкі хлопец з Турцыі. Ён крычаў: «Я грамадзянін Турцыі!» Выйшаў супрацоўнік АМАПу і пачаў крычаць мацюкамі: «Хто гэтыя людзі?» Іншы яму адказвае: «Вось хлопцы кажуць, што яны з працы ідуць». Але яму было ўсё роўна, ён сказаў: «Мне ўсё роўна. Запускай усіх».

Нашы заходы ў аўтазак суправаджаліся ўдарамі гумовай дубінкі. У аўтазаку мы стаялі як селядцы ў банцы. Але гэта не самае страшнае. На Акрэсціна з аўтазака нас выпускалі праз «калідор» з амапаўцаў. Там стаяла па 6–7 чалавек з кожнага боку, якія білі ўсіх.

## Стаялі на каленях на дробных каменьчыках

— Нас паставілі да сцяны на кукішкі. Так мы сядзелі і перамяшчаліся ўздоўж сцяны паўтары-дзве гадзіны. Рукі наверх, галаву ўніз. На просьбу хлопца, які побач знаходзіўся: «Я астматык, можна хоць бы балончык забраць?» адказвалі: «Здохнеш — не здохнеш, выжывеш — не выжывеш». У двары на Акрэсціна ёсць участак з дробнымі каменьчыкамі, вось там нас паставілі на калені. Пасля гэтага ўсяго нас запусцілі ў прагулачныя дворыкі. Зноў жа, мы забягалі праз калону, дзе ўсіх нас збівалі. Хоць бегчы мы абсалютна не маглі, таму што ва ўсіх ногі зацяклі былі. У дворыку мы прабылі хвілін 20. Пасля гэтага нас запусцілі ўжо ў сам ЦІП.

# цябе, магчыма, увогуле не знойдуць»

не ўпаў — яго «паставіла» на калена.

«Я літаральна цягам некалькіх імгненняў чуў, як ззаду пачалі тупаць берцы, народ пачынае разбягацца. Адчуваю, слезацечны газ пайшоў. Думаю: "Так, сябра, калі ты зараз адсюль не «дзёрнеш», то цябе, магчыма, потым увогуле не знойдуць". Калі мяне прывезлі аперavаць, чалавек, які быў на маёй аперацыі, распавёў, што ўсю кроў маёй групы перацягалі.

З каленяў я падарваўся і — дзякуючы шоку, адрэналіну і спартыўнаму мінуламу — так паскорыўся, што метраў 100–150 абганяў усіх "цэлых". Дабег да скрыжавання, мяне двое хлопцаў спынілі, убачылі, што я прастрэлены, кроў, і кажуць: стой, куды ты нясешся, табе ў бальніцу трэба, а не бегаць. Знайшлі машыну — літаральна першую, якая трапіла з тых, што сталі на святлафоры. Рабяты павезлі мяне да 4-й бальніцы. Там я ўжо слаба памятаю, што было».

Аляксандр перанёс дзве аперацыі, правёў два тыдні ў рэанімацыі і яшчэ амаль столькі ж — у агульнай палаце. Потым яго выпісалі.

Мужчына кажа, што не чакаў таго, што сілавікі пачнуць страляць па людзях. «А тут — выйшаў з хаты, і ўжо праз максімум дзве гадзіны ў бальнічцы».

Цяпер пра тое, што адбылося, Аляксандр распавядае з іроніяй, і не губляе бадзёрасці духу. Але раненні ўсё яшчэ не даюць яму нармальна жыць. На пытанне пра самаадчуванне суразмоўца адказвае так:

«Ну, пра швы і іншае не буду. Збольшага нармальна, працую. Але застаўся маленькі такі нюанс у выглядзе каластомы (адтуліна ў кішэчніку), закрыюць толькі ў канцы кастрычніка. І гэты нюанс напружвае трохі. Бясплатныя пласціны скончыліся, напэўна, ужо тыдні з тры таму — іх 15 штук на два месяцы выдаюць, беларускай вытворчасці. У мяне было такое, што я за дзень мяняў тры штукі».

Аляксандр мяркуе, што, робячы стаўку на жорсткі разгон пратэстаў, улады хацелі хутка пазакрываць людзям раты, разлічваючы паўтарыць сцэнар 2010 года і «прагнаўшы» самых актыўных праз турмы. Аднак яны памыліліся.

Зрэшты, рабіць прагнозы наконт таго, чым скончыцца




**Пасля раненняў.** Фота прадастаўлена Аляксандрам Садоўскім

супрацьстаянне беларускага народа з дыктатурай, суразмоўца не бярэцца. Кажа, што нават дасведчаныя палітолагі — і тыя не ведаюць, як усё павернецца.

Не мае ілюзіяў мужчына і наконт таго, што вінаватых у нанясенні шкоды яго здароўю можна прыцягнуць да адказнасці. На дадзены момант гэта немагчыма, а вось атрымаць за гэта самому крымінальную справу — лёгка, мяркуе Аляксандр.

«Вельмі хочацца, каб усе намаганні нашага народа не былі дарэмнымі», — падсумоўвае ён.

---



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

**Народная інаўгурацыя 27 верасня**

**Супрацоўнікі АМАПу проста рандомна білі, куды патрапіла, ну, у асноўным, прылятала ў раён сцёгнаў і ягадзіц. Усё гэта суправаджалася крыкамі і пытаннямі: «Дзе твая Ціханоўская?», «Будзеш яшчэ хадзіць?»**

У нашай камеры №23 на чатыры ложка-месца нас было каля 18 чалавек. Ноччу ў рэжыме нон-стоп прыязджалі аўтазакі адзін за адным, мы гэта бачылі праз акенца. Чулі, як збівалі людзей, людзі прасіліся, малілі. Я ніколі ў жыцці такога не чуў, каб мужчыны так вось прасілі. Яны кляліся, што там не знаходзіліся, прама да слёз. Валасы дыбарам уставалі ад усяго гэтага, кроў стыла ў жылах. Удары не спыняліся, нават калі чалавек падаў, напэўна, ад болевага шоку альбо ад чаго. Але ўдары ўсё роўна працягваліся.

### «Калі фельчар убачыла, што ён дыхае, то яна на яго проста села»

— Там была жанчына-фельчар, якая часам падыходзіла да людзей, якія ўжо ляжалі каля гадзіны без руху. Пры мне яна аднаго ўдарыла нагой — праверыла, ці варушыцца ён. Калі фельчар убачыла, што ён дыхае, то яна на яго проста села і глядзела, як іншых хлопцаў збіваюць. Нас выцягвалі з камеры, каб зняць на відэа. Мы павінны былі прадставіцца, распавесці, дзе знаходзіліся, пры якіх абставінах затрыманыя. Калі казалі, што мы не вінаватыя, то нам толькі адказвалі: «Ну, вы тут усе не вінаватыя». У камеры я знаходзіўся каля трох сутак: 75 гадзін недзе.

Вада ў нас была праточная з крана. Хоць якая, але вада. Пакармілі нас толькі на трэція суткі раніцай. Далі пару кавалкаў хлеба і пару лыжак кашы. Але там такая каша была, што лыжка стаяла.

### «Каго не паспелі асудзіць — не кармілі»

— Суды праходзілі наўпрост у ЦІП. Суддзям ставілі сталы ў калідорах. Хлопцы, з якімі я быў у камеры, распавядалі, што яны падыходзілі да стала, іх пыталіся, што, як, дзе, — і хутка судзілі. Як гаворыцца, без суда і следства іх ужо асудзілі. Мяне асудзіць не паспелі, па вызваленні прымусілі падпісаць пратакол, але копію не далі. Расказвалі, што ў суседніх камерах тых, каго не паспелі асудзіць, — не кармілі. Пры гэтым, калі заўважаць, што хтосьці дзеліцца, то ўжо ніхто есці не будзе.

З намі ў камеры быў хлопец гадоў 30–35 з прабітай галавой. Мы прасілі супрацоўнікаў прывесці лекара яму, але нам адмаўлялі. І толькі на другую ноч гэтага хлопца забралі. Праўда, не ведаем: альбо ў медыцынскую ўстанову, альбо на Жодзіна.

Насупраць нашай камеры былі дзяўчыны. Там іх было нашмат больш, чым хлопцаў у нашай камеры. Каля 40–50 дзяўчат у адной камеры. Бачылі, што некаторым было дрэнна з-за недахопу кіслароду.

Была сітуацыя, што аднаго хлопца званітавала. Прыйшоў супрацоўнік у чорным, хутчэй за ўсё амапавец, прынёс два вядры з незразумелай субстанцыяй, якая кепска пахла. Адно ён выліў на гэтага хлопца, а другое вядро ўручыў яму ў рукі і сказаў: «Ідзі прыбірай сваё».

### «Мы бачылі як збівалі людзей»

— Мы бачылі ў акенца з камеры, як збівалі людзей. Вельмі страшна было, калі мы чулі крыкі, але пры гэтым не было чуваць удараў. Гэта ўжо было не збіццё, а нейкае катаванне, я не ведаю, што яны рабілі. Былі пастаянныя стогны, крыкі. Мы не маглі спаць днём, таму што кіпіш у калідорах пастаянны быў, сесці таксама не маглі, таму што глядзелі ў камеру і забараняці. Ноччу не маглі спаць з-за гэтых жудасных стогнаў. Спалі мы хто як дзе. Мяняліся. Я спаў на падлозе пад ложкам. Так гэтыя тры дні і прайшлі: дзень не спіш з-за крыкаў у калідорах, ноч не спіш з-за стогнаў.

Калі ў ЦІП прыязджалі супрацоўнікі АМАПу, то яны рандомна адкрывалі камеры, збівалі людзей: альбо ў камеры, альбо на выхадзе. З намі ў камеры быў хлопец, алкаголік і наркаман, у якога былі жорсткія ломкі і галюцынацыі. Ён спрабаваў усіх выратаваць, прасіў меч, крычаў, грукаў у дзверы камеры. Мы вельмі баяліся, што з-за яго прыйдуць і нас усіх паб'юць. Нас папярэджвалі: «Пачую крык — будзеце збітыя ўсе».

Самае страшнае было — няведанне, што будзе далей. Пагражалі «суткамі». Мы кожную секунду сядзелі ў страху быць збітымі.

### «На ўнітазе будзеш дома газеты чытаць»

Як распавядае Руслан, яго выпусцілі праз трое сутак, 12 жніўня, каля пяці гадзін раніцы. Яму далі падпісаць пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні і папярэджанне аб няўдзеле ў масавых мерапрыемствах пад пагрозай прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

— Я прасіў, каб мне далі хаця б прачытаць пратакол, на што мне адказвалі: «На ўнітазе будзеш дома газеты чытаць».

Потым нас ставілі да сцяны, прасілі задзіраць майкі да шыі для агляду цела: чыстае, нячыстае. Я быў увесь чысценькі, было толькі пару пашкоджанняў на нагах. Іншых прасілі зняць штаны, мяне не прасілі. Пасля гэтага нас адводзілі ўбок, дзе зноў збівалі. То-бок, калі ты чысценькі, ты праходзіў гэты «абрад». Супрацоўнікі АМАПу проста рандомна білі, куды патрапіла, ну, у асноўным, прылятала ў раён сцёгнаў і ягадзіц. Усё гэта суправаджалася крыкамі і пытаннямі: «Дзе твая Ціханоўская?», «Будзеш яшчэ хадзіць?», «Раскажаш сваім сябрам?». Прымушалі крычаць: «Я люблю АМАП». Пасля гэтай працэдуры нас адпускалі, і мы ішлі ўздоўж плота ў бок выхаду.

# Ніколі не здавацца!

Алег НОВІКАЎ

**Германія адзначыла 30-ю гадавіну адзінства, якая наўрад ці адбылася б без усходненямецкіх дысідэнтаў, дзейнасць якіх на некаторых этапах гісторыі падавалася ўвогуле бесперспектыўнай.**



Фота www.svoboda.org

У 1986 годзе ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (ГДР) адбылася важная падзея. Рэспубліку наведаў Тэа Зомер — галоўны рэдактар штотыднёвіка Die Zeit, аднаго з вядучых заходненямецкіх ліберальных СМІ. Па слядах вояжу журналіст засведчыў, што нямецкая сацыялістычная дзяржава знаходзіцца ў добрым стане, і ніякіх прыкмет яе калапсу на гарызонце не бачна. Сваё, як пакажа час, памылковае рэзюмэ гер Зомер, напэўна, рабіў у тым ліку аналізуючы стан мясцовага апазіцыйнага руху.

На той час дысідэнты Усходняй Германіі ўяўлялі сабой дастаткова сумнае відовішча. У цэлым палітычна актыўная апазіцыя ў ГДР была абмежаваная некалькімі тысячамі чалавек з вельмі амбівалентнымі платформамі.

Слабасць апанентаў рэжыму была абумоўленая ў тым ліку шэрагам гістарычных фактараў. Пачаць можна з таго, што на момант будаўніцтва дыктатуры на Усходзе Германіі ніякай асаблівай грамадзянскай актыўнасці ўвогуле не было — любыя яе праявы даўно зачысцілі нацысты. Хіба што неяк пратэставала моладзь, якая баялася рэстаўрацыі дыктатуры.

Апроч таго, апазіцыйныя настроі ва Усходняй Германіі аслабілі ўрокі чэрвеня 1953 года, калі ў ГДР пачаліся стыхійныя рабочыя хваляванні. На думку гісторыкаў, рэжым мог ляснуцца, калі б яму на дапамогу не прыйшлі савецкія танкі. Падобна іншым народам Усходняй Еўропы, жыхары ГДР зразумелі — іх камуністычныя кіраўнікі застануцца пры ўладзе да таго часу, пакуль могуць карыстацца «інтэрнацыянальнай дапамогай» войскаў Варшаўскага блока.

Гэты аспект, а таксама моцны палітычны ціск на дысідэнтаў прымушалі выкарыстоўваць легальныя інстытуты. Тым больш, што мясцовая кампартыя — Адзіная Сацыялістычная Партыя (SED), каб узняць свой аўтарытэт, прымусова запісала ў свой склад сацыял-дэмакратаў. Шмат былых эсдэкаў (і нават некаторыя камуністы) не падзялялі ідэі імпарту на нямецкую глебу сталінскай формулы будаўніцтва сацыялізму. Баючыся, што падпольныя цэнтры ўнутры партыі паспрабуюць захапіць структуру, спецслужбы арганізавалі вялікую чыстку. У выніку на працягу 1950-х гадоў прыкладна 200 тысяч чалавек былі выключаныя з партыі, каля тысячы арыштаваныя, а прыкладна сотня ўвогуле бясследна знікла ў нетрах сістэмы Штазі.

Фармат рэпрэсій змяніўся пасля ўзвядзення Берлінскай сцяны ўлетку 1961-га, праз якую на Захад часта беглі іншадумцы. Формы пераследу пасля 1961 года сталі больш дасканалымі. Стаўка рабілася на псіхалагічны ціск па месцы працы і жыхарства. Тым не менш, былі і асуджаныя па палітычных артыкулах. У гісторыі ГДР праз такія працэсы прайшло больш за 250 тысяч чалавек. Найбольшы хапун адбыўся ў 1968-м, падчас акцый салідарнасці з Чэхаславакіяй.

Да сярэдзіны 1970-х гадоў палітычная апазіцыя складалася ў асноўным з дзвюх груп: з аднаго боку — інтэлектуалы, якія працягвалі верыць у сапраўдны сацыялізм. Другая група іншадумцаў знайшла прытулак у пратэстанцкай царкве, дзе некаторыя выступалі супраць дыктатуры з тэалагічных пазіцый. У жніўні 1976 года пратэстанцкі пастар Оскар Брусевіц падпаліў сябе ў знак пратэсту супраць дыктатуры SED.

Адначасова сфарміраваўся такі кірунак, як культурная апазіцыя ў выглядзе моладзевых субкультур, што ад самага пачатку пераследаваліся ўладамі. Сярод краін Усходняй Еўропы толькі ў ГДР прыхільнікаў джазу і рок-н-ролу асуджалі на вялікія тэрміны зняволення, паколькі тыя «спрыялі амерыканскаму культурнаму імперыялізму». На хвалі моды на рух хіпі з'явіўся пацыфісцкі рух «Мячы на плугі», які ўключаў каля ста тысяч чалавек. Спецслужбы актыўна пераследавалі пацыфістаў, нягледзячы на тое, што сімволікай руху быў сусветны сімвал барацьбы за мір. Пацыфізм быў небяспечны для SED, паколькі лагічна прадугледжваў дэмілітарызацыю Германіі, у тым ліку вывад як войскаў NATO, так і савецкіх.

Крыху раней набылі папулярнасць барды, рэпертуар якіх уключаў песні на актуальныя палітычныя тэмы. Сярод іх абсалютнай зоркай з'яўляўся Вольф Бірман. У 1976 годзе падчас гастроляў Бірмана на Захадзе кіраўніцтва SED прыняло рашэнне пра пазбаўленне музыкі грамадзянства, што прымусіла людзей пайсці на вуліцы. За ўдзел у акцыях пратэсту былі арыштаваныя многія прадстаўнікі інтэлігенцыі ГДР.

Шмат каму з дысідэнтаў пасля апісаных падзей дазволілі эміграваць, што аслабляла фронду. Тыя, хто заставаўся, не мелі адзінай арганізацыі і нават праграмы. Тым не менш, у 1989 годзе гэты аморфны кангламерат груповак нечаканаператварыўся ў моцную сілу, якая за пару гадоў дамаглася кардынальнай трансфармацыі краіны і аб'яднання Германіі.

Што здарылася? Безумоўна, важным чыннікам стала Перабудова ў СССР, якая прымусіла нямецкія ўлады нават увесці цэнзуру на савецкія фільмы і часопісы. Другім чыннікам сталі нечаканa масавыя дэманстрацыі супраць фальсіфікацый выбараў у траўні 1989-га. Па ўсёй краіне тады пачаліся пратэсты, якія ўцягнулі ў апазіцыйны лагер сотні тысяч чалавек. Разам са старымі дысідэнтамі неафіты пачалі ствараць грамадзянскія ініцыятывы накшталт «Новы форум», «Дэмакратыя цяпер», «Дэмакратычнае абуджэнне» і гэтак далей. Менавіта такія групоўкі вызначалі кірунак палітычнай дыскусіі пасля падзення Берлінскай сцяны ў лістападзе 1989-га, дабіліся датэрміновых выбараў у парламент ГДР увесну 1990-га, якія прынеслі перамогу рэфарматарам.

Няма сумневу, што ўсяго за тры гады да апісаных падзей Тэа Зомер нават уявіць такой развязкі не мог.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«ЗША і ЕС павінны разумна ацэньваць недахопы пратэстнага руху і моцныя бакі Масквы. ЗША і ЕС трэба шукаць кампрамісы, якія паскораць сыход Лукашэнкі, але ў той жа час улічаць цесныя сувязі Расіі з гэтай краінай. Такія рашэнні павінны весці да паступовай нармалізацыі адносін, каб павольна ствараць аптымальныя ўмовы для будучых дэмакратычных працэсаў. У такой палітыцы знойдзе прызнанне незадаволенасць беларускіх пратэстоўцаў станам рэчаў; яна не дазволіць ператварыць Беларусь у зону супернiцтва вялікіх дзяржаў і знізіць рызыку маштабнай расійскай інтэрвенцыі, якая закрые шлях да рэформаў».

**Foreign Affairs (ЗША)**

«Каталікі і праваслаўныя — дзве самыя шматлікія канфесіі — абсалютна інтэграваныя ў адзіным соцыуме. У каталікоў няма ўласных супольнасцяў "для сваіх" або сепаратысцкіх настрояў. У многіх гарадах каталіцкія касцёлы і праваслаўныя храмы ўжо не першае стагоддзе мірна суіснуюць па суседстве. Такая сітуацыя прывяла да таго, што ў рэспубліцы паміж прадстаўнікамі розных канфесій няма палітычных супярэчнасцяў. Практыка паказвае, што па абодва бакі "барыкад" у беларускім крызісе аказаліся як праваслаўныя, так і каталікі».

**«Страна» (Украіна)**

«Узмацненне партнёрскіх адносінаў Масквы і Мінска ў ваеннай сферы, што фіксуецца апошнім часам, прымушае краіны NATO нервавацца. Умацаванне ваенных адносін Беларусі і РФ можа прывесці да таго, што будзе перагледжана ўся схема расстаноўкі сіл у дачыненні да паўночна-ўсходняга кірунку, паколькі расійскія войскі могуць узяць пад кантроль мяжу Польшчы і Літвы, што звязвае Балтыку з альянсам».

**Wall Street Journal (ЗША)**

«Еўрапейскі саюз увёў санкцыі супраць 40 афіцыйных асобаў Беларусі, якія маюць дачыненне да парушэння правоў чалавека ў краіне і фальсіфікацый на выбарах прэзідэнта. Самога Лукашэнку Еўрасаюз пашкадаваў. Напэўна, ЕС не здагадваецца, што беларускі кіраўнік лёгка можа замяніць 40 адных сваіх чыноўнікаў на 40 любых іншых. Ну, проста раз плюнуць. Замяніць ён не можа толькі самога сябе. І што тады застаецца ад санкцый? Пры ўсёй жорсткасці сваіх заяваў Еўрасаюз гуляе з Лукашэнкам у паддаўкі?»

**«Обозреватель» (Украіна)**

«Атрымаўшы параду ад французскага прэзідэнта добраахвотна пакінуць сваю пасаду, Лукашэнка адказаў сатырычным памфлетам, жартам намякнуўшы, што за цікавасць да Святланы Ціханоўскай Эмануэлю Макрону давядзецца адказваць перад жонкай. Такога кшталту жарты — у стылі "бацькі", але цяпер ён абраў максімальна няўдалы час. (...) Лукашэнка рызыкуе нажыць у асобе Макрона ворага, для чаго ў французскага прэзідэнта ёсць і асабістыя, і палітычныя падставы. Прэзідэнт Пятай Рэспублікі вызначаецца хваравітым самалюбствам і трапяткім стаўленнем да тэмы ўласнага сямейнага жыцця. Сваёй рэмаркай ён (Лукашэнка) мог ператварыць Францыю з назіральніка ў актыўнага ўдзельніка беларускіх падзей».

**«Взгляд» (Расія)**

«Міжнародныя інстытуты скептычна глядзяць на перспектывы развіцця беларускай эканомікі ў бліжэйшыя гады. Міжнароднае рэйтынгавае агенцтва S&P Global Ratings прагназуе зніжэнне ВУП Беларусі ў 2020 годзе на чатыры працэнты. Іншыя арганізацыі чакаюць зніжэння ВУП Беларусі на 4–6 працэнтаў з-за негатыўнага ўздзеяння сусветнай пандэміі на беларускую эканоміку. На самай справе, эканоміка, у якой дамінуе дзяржаўная ўласнасць, паслабленая грамадскімі пратэстамі, можа страціць больш за 10 працэнтаў за год. Да гэтага часу ніхто не спрабаваў ацаніць уплыў палітычнага крызісу на ВУП краіны».

**Rzeczpospolita (Польшча)**

# Трэці раз за 15 гадоў вуліца захапіла ўладу

Алег НОВІКАЎ

**«У Кыргызстане адбылася сапраўды гістарычная падзея. У чарговы раз народ, аб'яднаны імкненнем да справядлівасці і свабоды, зрынуў злачынную ўладу. Народ зноў паказаў, што не дазволіць сямейна-кланаваму рэжыму ўзурпаваць усе органы ўлады ў краіне», — такімі словамі апісаў тое, што адбывалася ў сталіцы напярэдадні, адзін з лідараў пратэстаў.**



Фота www.eanews.ru

У панядзелак, 5 кастрычніка, тысячы нязгодных з абвешчанымі вынікамі парламенцкіх выбараў выйшлі на вуліцы, каб уступіць у бойку з сілавікамі. Пасля першага разгону пратэстоўцы ноччу ўсё ж захапілі рэзідэнцыю прэзідэнта Сааранбая Жээнбекава і выпусцілі з турмы яго галоўнага ворага — былога прэзідэнта Алмазбека Атамбаева.

Спачатку Жээнбекаў заявіў, што гэтай ноччу ў краіне адбылася спроба незаконнага захопу ўлады, аднак пасля дапусціў перагляд вынікаў галасавання. Удзень 6 кастрычніка ЦВК сапраўды прызнаў, што выбары не адбыліся. Між тым, група палітыкаў-аксакалаў заявіла пра стварэнне Каардынацыйнай рады, місія якой — у тым, каб аднавіць прававое поле ў Кыргызстане. Маладое пакаленне мітынгоўцаў адразу заявіла, што не задаволене новым органам. Пра гэта яны казалі на стыхійным мітынгу ўвечары 6 кастрычніка.

Таксама пішуць, што простыя людзі на базе раённых акіматаў актыўна ствараюць атрады самаабароны, бо баяцца пагромаў і разгулу крыміналу. Прадпрымальнікі і ўладальнікі буцікаў у гандлёвых цэнтрах Бішкека вывозяць свой тавар. Паводле іх слоў, якія цытуюць мясцовыя медыя, бізнесоўцы баяцца, што марадзёры пачнуць рабаваць гандлёвыя кропкі.

Пасля рэкамендацыі Нацыянальнага банка прыпыніць усе фінансавыя аперацыі банкі пачалі забіраць грошы з банкаматаў. На сярэдзіну тыдня заставалася не зразумела, хто кіруе Міністэрствам унутраных спраў Кыргызстана.

У першых экспертных каментарах на апошнія навіны з Бішкеку бракуе прыгожых фраз пра «імкненне кыргызаў да справядлівасці і свабоды». Напэўна таму, што той жа Алмазбек Атамбаеў далёка не падобны на карыфея дэмакратыі. Прэзідэнцтва Атамбаева адзначалася шматлікімі грамадзянскімі і крымінальнымі судовымі працэсамі супраць журналістаў, апазіцыйных палітыкаў, праваабаронцаў. Мела месца спроба перапісаць пад сябе Канстытуцыю.

Таму генезіс рэвалюцыі ў Кыргызстане 6 кастрычніка бачаць у ракурсе старога канфлікту паўднёвага і паўночнага кланаў. Прыналежнасць Жээнбекава да паўднёвай групоўкі абумовіла масавы пратэст за вызваленне Атамбаева — прадстаўніка паўночных кланаў (у зону гэтага клану ўваходзіць сталіца).

Адной з ускосных прычынаў фарміравання рэвалюцыйнай сітуацыі, безумоўна, стала пандэмія COVID-19. Урад Кыргызстана пасіўна змагаўся з вірусам, бо сродкаў бракавала. Аднак значна больш сітуацыю расхістала забарона на выезд з краіны. З улікам таго, што абсалютная большасць гастарбайтараў — гэта маладыя амбіцыйныя людзі, за паўгады эпідэміі Кыргызстан ператварыўся ў вулкан, які выбухнуў з прычыны выбараў.

Сустракаюцца, натуральна, версіі пра тое, што бунт быў інспіраваны нейкім трэцім бокам. Некаторыя бачаць тут руку Эрдагана, які марыць пра Кыргызстан як частку вялікага Турану. Звяртаюць увагу на тое, што ў краіне працуюць вельмі шмат амерыканскіх грантавых арганізацый. Аднак, з улікам цяперашніх выбараў у Злучаных Штатах і актыўнага ўдзелу Анкары ў падзеях на Каўказе, версія датычнасці туркаў або янкі да перавароту 5 кастрычніка не выглядае пераканаўчай.

З улікам таго, што Жээнбекаў падаў сігнал пра гатоўнасць да дыялогу, ёсць спадзяванне, што сітуацыя дастаткова хутка нармалізуецца, і бакі дамовяцца пра фармат выхаду з крызісу. Хаця тэма пераезду цяперашняга гаранта Кыргызстана ў Мінск да экс-прэзідэнта Бакіева — ахвяры «рэвалюцыі цюльпанаў» 2005 года — не абмяркоўваецца. Медыятарам перамоваў, напэўна, будзе Масква, якая ўцягнула Бішкек у еўразійскія гаспадарчыя і вайскова-палітычныя структуры. Дый раней Масква, як правіла, дапамагала стабілізаваць сітуацыю пасля папярэдніх рэвалюцый.

Сваё бачанне наконт развіцця падзеяў у Кыргызстане пасля чарговага «Майдану» і яго ўплыву на рэгіён «Новаму Часу» прапанаваў кыргызска-казахскі журналіст Айнур Курман.

— Відавочна, што для выхаду з цяперашняга крызісу трэба праводзіць новыя выбары. Аднак наўрад ці яны абыдуцца без спробаў фальсіфікацый у выглядзе таго ж подкупу электарату. Таму цяжка сказаць, ці задаволяць новыя канчатковыя вынікі ЦВК усе партыі і ці абыдзецца без новых заклікаў ісці на плошчу. Тым больш, ва ўмовах дэфіцыту рэсурсаў барацьба за мандаты, якія даюць права кантролю над бюджэтам, будзе асабліва жорсткай.

Што да сцэнару экспарту цяперашняй рэвалюцыі з Кыргызстана як мінімум на краіны-суседзі, то ён не прагледаецца. З 2005 года жыхары суседніх краін Цэнтральнай Азіі прызвычаіліся, што ў Кыргызстане дзяжурна адбываюцца падобныя рэчы. Аднак таксама нельга забываць, што на гэтым тыдні будуць абіраць прэзідэнта Таджыкістана. Калі пасля Беларусі, Каўказу, Кыргызстана запалае яшчэ адзін расійскі саюзнік — Таджыкістан, то ўзнікне абсалютна новы і непрадказальны расклад па знешнім перыметры зоны ўплыву Масквы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Араік Аруцюнян



Ва ўмовах ваеннага канфлікту з Азербайджанам лідар самаабвешчанай Нагорна-Карабахскай Рэспублікі (НКР) вырашыў зрабіць стаўку на нацыянальныя меншасці ў азербайджанскім тыле. Камандаванне Карабаха заклікала нацыянальныя меншасці Азербайджана чыніць масавыя пратэсты і акты сабатажу. Акрамя таго, армянскай артылерыі, нібыта, нават забаранілі абстрэльваць Лезгістан і Талышастан — рэгіёны кампактнага пражывання меншасцяў лезгінаў і талышоў.

Відавочна, Сцепанакерт марыць пра паўтарэнне бунту талышоў супраць Баку, які меў месца ў 1990-я. Тады для таго, каб задушыць талышскі сепаратызм, Баку давялося перакідваць войскі з Карабаха. Гэта стала адной з прычынаў паразы Азербайджана. Ці атрымаецца армянам справакаваць тых жа талышоў на новы бунт праз 30 гадоў? Пакуль пытанне застаецца без адказу. Сам Аруцюнян сцвярджае, што талышы ўжо калектыўна байкатуюць распараджэнні Аліева наконт мабілізацыі ў войска. Аднак значная фракцыя экспертнай супольнасці лічаць падобную інфармацыю перабольшанай. Па іх словах, нейкую незадаволенасць і ўшчамленне і талышы, і лезгіны зазнаюць, як і ўсялякая нацыянальная меншасць, але ў прынцыпе адчуваюць сябе ў Азербайджане дастаткова камфортна.

Зрэшты, псіхалагічная вайна паміж Баку і Ерэванам за розумы азербайджанскіх нацменшасцяў толькі пачалася. Нядаўна пайшлі гуляць чуткі, што, нібыта, Баку мае намер сфарміраваць воінскія часці пераважна з лезгінаў і пасылаць іх у першыя шэрагі ў якасці гарматнага мяса.

### Яраслаў Качыньскі



Лідар польскай урадавай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS), які многія гады быў шэрым кардыналам у кіраўніцтве Польшчы і самым магутным палітыкам краіны, пасля 13-гадовага перапынку вярнуўся ва ўрад рэспублікі. Па выніках перастановак лідар кіруючай партыі стаў віцэ-прэм'ерам, які адказвае за сілавыя структуры — міністэрства юстыцыі, унутраных спраў і абароны.

Прагназуюць, што выхад Качыньскага на авансцэну можа абярнуцца далейшым узмацненнем жорсткасці рыторыкі ў адрас Расіі. Магчыма, варта чакаць новага фрагменту «смаленскай справы». У сярэдзіне верасня польская генпракуратура запатрабавала арышту трох расійскіх дыспетчараў, якія дзяжурылі ў Смаленскім аэрапорце, калі пад Смаленскам разбіўся прэзідэнцкі борт разам з братам-блізнюком Яраслава Качыньскага прэзідэнтам Лехам Качыньскім. У Маскве тут жа адказалі, што ні пра якую выдачу авіядыспетчараў не можа быць і гаворкі.

Таксама росту напружанасці трэба чакаць на заходнім кірунку. Для Брусэля і Берліна Яраслаў Качыньскі — сімвал усходнееўрапейскіх еўраскептыкаў, аўтар спрэчнай рэформы судоў, ініцыятар кампаніі па праследу польскіх актывістаў ЛГБТ.

### Ігар Паліца



Яшчэ нядаўна лідара ўкраінскай партыі «За будучыню» ведалі толькі эксперты. Аднак за тры тыдні да мясцовых выбараў, якія могуць мець каласальнае значэнне для сітуацыі ў краіне, нечакана фіксуецца рост папулярнасці партыі «За будучыню». Паводле сацапытанняў групы «Рэйтынг», «За будучыню» займае пятае месца па ўсёй Украіне з 6,2 працэнта галасоў. А ў асобных рэгіёнах група нават лідзіруе ў апытаннях.

Пры гэтым лідары структуры не хаваюць, што мандаты ў мясцовых органах улады — гэта не мяжа іх амбіцый. З'явіліся чуткі, што ў выпадку поспеху партыі на выбарах Паліца можа запатрабаваць ад Зяленскага перафарматаваць выканаўчую ўладу і ўвайсці ў склад ураду. У такім разе нават не выключана, што Паліца можа стаць віцэ-прэм'ерам ці нават прэм'ер-міністрам.

Такога кшталту напалеонаўскія планы маюць грунт. Многія прагназуюць катастрафічную паразу прэзідэнцкай партыі «Слуга народа» на выбарах, што прызначаныя на 25 кастрычніка. Гэта выкліча эрозію яе шэрагаў і прымусіць адміністрацыю Зяленскага думаць пра новых партнёраў па кабміну.

Застаецца дадаць, што Ігар Паліца мае тыповую для ўкраінскага палітыка біяграфію, якая камбінуе бізнес і пастаянную змену партбілетаў з улікам палітычнай кан'юнктуры. Партыя «За будучыню» — шостая партыя Паліцы з пачатку стагоддзя. Ці стане ён новым прэм'ерам, мы даведаемся прыкладна праз месяц-паўтара.

# «Я жадаю Беларусі максімальна магчымай незалежнасці»

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Пісьменнік Дзяніс Драгунскі, які адным з першых адгукнуўся на заклік Святланы Алексіевіч выказацца пра падзеі ў Беларусі, мае карані ў Гомелі. Яго бацька, аўтар знакамітых «Дзяніскавых апавяданняў» Віктар Драгунскі, нарадзіўся ў сям'і гамяльчан і правёў сваё дзяцінства на берагах Сожа.**




Дзяніс Драгунскі

### Аднойчы ў Гомелі

Дзядуля папулярнага дзіцячага пісьменніка Леў Драгунскі быў адным са стваральнікаў першага сацыял-дэмакратычнага руху ў Гомелі.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя жыццё па-сутнасці патрыярхальнага мястэчка ўзарвалі жалезная дарога, якая прыйшла сюды, і капіталізм. Побач з драўлянымі сядзібамі з саламянымі стрэхамі задымілі трубы першых фабрык і заводаў. Спачатку пралетарыі, што працавалі на іх, былі задаволеныя ўсім — ну і што, што працоўны дзень доўжыўся 16 гадзін. Але затое была «стабільнасць», і гаспадар разлічваўся грашыма. Напачатку ўладальнікаў майстэрняў і фабрык, як і цара-бацюхну, так і ўспрымалі — як «бацьку»-карміцеля. Але грымнуў адзін, потым другі эканамічны крызіс. І ў працоўных кварталах з'явіліся людзі кшталту Льва Драгунскага. У працоўных кварталах яны сталі ствараць гурткі самаадукацыі для рабочых. Гэта было важна, бо імперскія ўлады не жадалі марнаваць грошы на школы, і большасць насельніцтва заставалася непісьменнай. Прапагандысты, якія пайшлі ў масы, былі для пралетарыяў свайго роду «інтэрнэтам» таго часу.

Інтэлігенты-сацыялісты хацелі звяржэння самадзяржаўя. А таксама агітавалі за скарачэнне працоўнага дня, грамадзянскія свабоды і нармальную аплату працы. Апошняя акалічнасць асабліва імпанавала рабочым, і гэта надало барацьбе супраць аўтакратыі масавы народны характар. Ужо першыя страйкі — грозная зброя пралетарыяту — прымусілі многіх гаспадароў у Гомелі скарацiць працоўны дзень да 10–12 гадзін і падняць заработную плату — да 50 працэнтаў.

У Гомельскім музеі захавалася кніга, выдадзеная ў 1925 годзе. У ёй рэвалюцыянер Драгунскі згадваецца досыць часта. Кніга перажыла рэпрэсіі цудам, бо многія названыя ў ёй сацыял-дэмакраты, уключаючы бальшавікоў, бундаўцаў і эсэраў, пазней, у час «вялікага тэрору», былі асуджаныя. Самога Драгунскага таксама пасмяротна запісалі ў меншавікі, і нават паспрабавалі абвінаваціць у супрацоўніцтве з аховай. Справа ў тым, што доўгі час яго, аднаго з кіраўнікоў РСДРП, палітычная паліцыя не чапала. На самай справе, «ахранка» пакідала на волі яго і яшчэ некалькі чальцоў падпольнага камітэта, каб прыкрыць свайго рэальнага агента-правакатара — Мірона Чарнамазава, які потым стаў выпускаючым рэдактарам легальнай бальшавіцкай газеты «Правда».

Але ў 1903 годзе Леў Драгунскі быў упершыню арыштаваны і паўстаў перад царскім судом. У тым годзе царская паліцыя вырашыла апрабаваць у барацьбе з рэвалюцыйным рухам «новую» тэхналогію — распальванне міжнацыянальнай варожасці. 65 працэнтаў насельніцтва Гомеля тады складалі габрэі, бытавы антысемітызм і рэлігійныя канфлікты былі не рэдкасцю. Але мала хто ведае, што першапачаткова царская паліцыя для нападаў на «дэмакратаў» выкарыстала не «рускіх», а габрэйскіх пагромшчыкаў. Апошнія рэкрутаваліся з ліку ламавых рамізнікаў і розных цёмных элементаў. Габрэйскую ж «чорную сотню» для нападаў на рэвалюцыйных рабочых натхняў «казённы» рабінат. Аднак рабочыя арганізаваліся і далі адпор нападнікам. Тады жандары ў жніўні-верасні 1903 года нацкавалі на габрэяў «рускіх» рабочых з майстэрняў Лібава-Роменскай чыгункі. Аднак рабочыя партыі ўпершыню ў найноўшай габрэйскай гісторыі арганізавалі ў Гомелі атрады самаабароны, якія сустрэлі чарнасоценцаў са зброяй у руках. Адным з арганізатараў гомельскай самаабароны быў і Леў Драгунскі.

Пры гэтым прафесія ў Драгунскага была абсалютна мірная — настаўнік рускай мовы. Але даследчыца Марына Шчукіна прыводзіць успаміны сваякоў пісьменніка — людзей з інтэлігенцкай знешнасцю ў сям'і не любілі. Як толькі мужчын з чэхаўскімі бародкамі і ў пенснэ прыходзілі да Льва Драгунскага, услед за гэтым адразу ж ішлі арышт і зняволенне ў гомельскім турэмным замку.

Жонкай Льва Драгунскага была акушэрка Цыля Ісаакаўна, родам са знакамітага «Кагальнага рова» — гомельскай «Малдаванкі». Але рэвалюцыя 1905–1907 гадоў пацярпела паразу, а ўслед за ёй распаўся і сямейны саюз Драгунскіх. У 1913 годзе манархія Раманавых з пафасам святкавала 300-годдзе дынастыі і сваю ўяўную нязломнасць. А педагог і сацыял-дэмакрат Драгунскі развёўся з Цыляй і ажаніўся з Ханай-Бейлі Ратнер, якая была маладзейшая на 16 гадоў. І ў тым жа годзе маладая сям'я эмігравала ў Амерыку.

Туды ж з'ехалі і дзеці ад першага шлюбу — Ісаак і Рыта. Рыта выйшла замуж за Юзафа Пярцоўскага, сына старызніка. Сям'я была маладая ў прамым і пераносным сэнсе — Рыце было 16, яе мужу — 17 гадоў. Юзік да ўсяго іншага меў крымінальныя схільнасці. Як паведамляе Марына Шчукіна са слоў чальцоў сям'і Драгунскіх, Юзік, напрыклад, мог лёгка абакрасці лаўку свайго бацькі ды імітаваць яе рабаванне «невядомым» экспрапрыятарам.

У Нью-Ёрку, у Бронксе ў Рыты і Юзіка нарадзіўся сын Віктар — будучы савецкі пісьменнік. Сям'я жыла амаль што ў трушчобах, як мінімум — па суседстве з вяззлівымі пацукамі, таму неўзабаве прыняла рашэнне вяртацца ў Гомель. А вось дзядуля Леў, які браў актыўны ўдзел ужо ў амерыканскім сацыялістычным руху, застаўся ў Амерыцы назаўжды. Пры нязначным выдаленні зуба ён атрымаў заражэнне крыві і памёр.

### «Дзяніскавы апавяданні» і Гомель

Сямейнае жыццё Драгунскіх разгортвалася таксама бурліва, як і сама тая эпоха. У Гомелі здарылася рэвалюцыя, а ў Рыты Драгунскай з'явіўся новы муж. Як абвяшчае смутнае паданне, перад гэтым ён прыклаў руку да расстрэлу першага мужа — Юзіка Пярцоўскага, абвінавачанага ў бандытызме. Паводле іншай версіі, бацька пісьменніка памёр ад тыфу. Як бы там ні было, але айчымам будучага аўтара «Дзяніскавых апавяданняў» стаў Іпаліт Вайцяховіч, начальнік гомельскай міліцыі. Зрэшты, у 1920 годзе ён, у сваю чаргу, быў забіты бандытамі. На яго пахаванне на вуліцы Гомеля выйшла велізарная колькасць людзей. А дзядзька будучага пісьменніка быў анархістам, удзельнікам падпольнага руху супраць нямецкіх акупантаў у 1918 годзе.

Гомель часоў НЭПа таксама жыў поўным супярэчнасцяў жыццём. Паралельна з суровымі пралетарскімі буднямі і рэвалюцыйным будаўніцтвам новая буржуазія таксама любіла адпачыць з пафасам. Расквітнела і мясцовае эстраднае мастацтва. Школьнік Драгунскі нават наведваў кафэ-шантан «Эльдарада» ў былым парку Паскевічаў, а цяпер — імя першага наркама асветы таварыша Луначарскага.

А ў 1922 годзе яго маці ў трэці раз выйшла замуж за рэжысёра габрэйскага тэатра, які прыехаў у Гомель на гастролі — Менахема-Мендл Рубіна. Хто асудзіць яе, калі грамадзянская вайна адабрала ў жанчыны першых двух мужоў? Так Віктар яшчэ шчыльней увайшоў у тэатральны свет. Але ў 1931 годзе хлопец згубіў і другога айчыма. Рэжысёр спакусіўся люботамі капіталістычнага свету і з'ехаў у Амерыку.

А Віктар з маці засталіся ў Маскве. Тут ён некаторы час працаваў токарам, але затым паступіў у тэатральна-літаратурную студыю. У 1941 годзе, з пачаткам вайны, Віктар Драгунскі пайшоў у апалчэнне, потым працаваў у франтавых творчых брыгадах.

Дэмакратызацыя жыцця ў СССР у 1960-я гады дала магчымасць раскрыцца бліскучаму таленту Віктара Драгунскага і многіх іншых. «Дзяніскавы апавяданні» падкуплялі сваёй жвавасцю і непасрэднасцю, як бы зыходзілі ад савецкага дзяцінства. У тэксце меліся і адсылкі да рамантыкі першых гадоў савецкай улады, бо ў гады адлігі было абвешчана вяртанне да «сапраўднага ленінізму». Напэўна, распавядаючы пра будзёнаўскую шаблю, успамінаў Віктар Юзафавіч і свайго гомельскага айчыма ў скуранай тужурцы з маўзерам на баку. Хто ведае, што б ён нам распавёў, дажывы да нашых дзён?

### Новая Беларусь

Але мы ўсё ж такі спыталі яго сына, Дзяніса Драгунскага: «А што б сказаў Дзяніска Караблёў адносна цяперашніх падзеяў у Беларусі?» Наш рэспандэнт, хоць і быў прататыпам легендарнага літаратурнага героя, за яго адказваць не стаў. Але ад сябе расійскі пісьменнік **Дзяніс Драгунскі** адказаў на пытанні НЧ наступнае:

— Той факт, што ў Расіі называюць Лукашэнку «народным прэзідэнтам» — гэта імперска-шавіністычная адрыжка. Глядзіце самі: Расіі патрэбны лідар моцны, разумны, няпросты. Любімым застаецца Сталін — тут табе і рэпрэсіі, але тут і захопленасць літаратурай і тэатрам, гутаркі з Булгакавым і Пастарнакам. Любяць і памятаюць таксама Андропава — аблічча вытанчанага інтэлігента ва ўладзе. Жалезнай рукой кіруе — і складае санеты, і наогул габрэй па маці: разумны сумны погляд з-пад акуляраў. Выбітны палітыкі Пуцін — я кажу гэта без сімпатыі, але прызнаючы відавочнасць. Таксама, дарэчы, суразмоўца Салжаніцына і прыхільнік рускіх філосафаў. Чаму так? Рускі імперац адказа: «Ды таму што мы — вялікі народ, і прэзідэнт у нас павінен быць адпаведны... А гэтыя беларусы — гэта ж суцэльны калгас, ну, крышачку, "БелАЗ" — вось ім і патрэбны такі ўвесь з сябе народны прэзідэнт, Бацька, адным словам». Але кожны «народны прэзідэнт», як ні разумей гэта дзіўнае спалучэнне, праз 26 знаходжання ва ўладзе становіцца «антынародным». Так бы мовіць, па факце свайго захрасання ва ўладзе.

А вось будучыня Беларусі, на думку пісьменніка Дзяніса Драгунскага, павінна быць наступнай:

— Я б хацеў бачыць Беларусь сучаснай парламенцкай рэспублікай. Менавіта парламенцкай рэспублікай, з развітой сістэмай палітычнай канкурэнцыі. Магчыма, нават з абмежаваннем тэрміну для лідара кіруючай партыі, ці нават для самой партыі, якая знаходзіцца ва ўладзе. Пры ўсёй павазе да спадарыні Меркель — гэта не вельмі прыемная неспадзяванка занадта доўгага знаходжання ва ўладзе. Пра дэмакратыю можна казаць толькі пасля таго, як улада ў краіне двойчы змянілася ў выніку свабодных выбараў, прычым да ўлады прыйшлі не розныя людзі, а менавіта розныя палітычныя сілы. Сацыялісты змянілі лібералаў, а потым на змену сацыялістам прыйшлі кансерватары, і гэтак далей.

Зразумела, я б хацеў, каб у новай Беларусі былі забяспечаныя палітычныя свабоды і правы чалавека, каб вялася гуманная сацыяльная палітыка.

Беларусь — кампактная, высока індустрыялізаваная краіна. Такія — большасць краін-чальцоў ЕС. Але ўступаць у Еўрасаюз ці заставацца «недалучанай» — хай вырашаюць самі беларусы. Але я б не хацеў для Беларусі статусу вечнага «лімітрофа», памежнай дзяржавы, вымушанай балансаваць паміж РФ і ЕС. Я б жадаў Беларусі максімальна магчымай незалежнасці.

***P.S.*** *Аўтар выказвае ўдзячнасць за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу журналістцы і даследчыцы Марыне Шчукінай.*

# Лёд пад нагамі маёра:
## ці забяруць у Беларусі хакейны чэмпіянат свету-2021?

Сяргей КАЙКО

**Вясной 2017 года Міжнародная хакейная федэрацыя (ІІХФ) вызначылася з месцам, дзе адбудзецца чэмпіянат свету–2021. Элітны спартыўны форум па выніках галасавання аддалі дзвюм еўрапейскім сталіцам — Мінску і Рызе.**



Фота www.tut.by

**У 2014 годзе чэмпіянат свету прайшоў у Мінску на ўра. Ці адбудзецца тое ж самае ў 2021-м?**

Але баржомі піць яшчэ рана: праз тры з паловай гады пытанне зноў стала рубам. На фоне палітычных падзей у Беларусі замежжа патрабавальна загудзела — і заклікае пазбавіць рэжым Аляксандра Лукашэнкі радасці вялікага хакею.

Ці магчымы перанос чэмпіянату ў іншую краіну? Ці рэальна здзейсніць такі паварот за паўгода да пачатку спаборніцтваў? Ці гатова ўвогуле ІІХФ на такі прэцэдэнт?..

### Латвія не хоча

Здаецца, усё пачалося 13 жніўня, калі на хакейную тэму раптам загаварыў прэм'ер-міністр Латвіі Крыш'яніс Карыньш. «Я мяркую, што падзеі ў Беларусі рэзка мяняюць сітуацыю, — заўважыў ён у эфіры мясцовага тэлебачання. — Зараз я не бачу, як мы — наша краіна — можам правесці чэмпіянат свету разам з Беларуссю».

Вядома, што за падзеі так непрыемна ўразілі латвійскага прэм'ера ў сярэдзіне апошняга летняга месяца. Па гарачых слядах пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі было асабліва неспакойна — і месцамі нават жудасна. Сілавікі з клінічнай жорсткасцю разганялі пратэсты, пакавалі дэманстрантаў у аўтазакі, а потым тыя траплялі на Акрэсціна, адкуль выходзілі ссінелыя, збітыя на горкі яблык.

Ад навінаў з Беларусі тады ўздрыгваў увесь свет, і не дзіва, што рэакцыя была адпаведная і шматвектарная. У тым ліку яна закранула і спорт наогул — і хакей, у прыватнасці.

Але ж шмат хто думаў: гэта толькі словы і пагрозы — далей іх справа не зрушыцца. Да вясны яшчэ колькі месяцаў, жарсці хутка ўлягуцца, зіма будзе доўгай — і ўсё спіша. Урэшце і ў 2014 годзе Захад заклікаў да нечага падобнага, але чэмпіянат свету так і прайшоў у беларускай сталіцы — у «Мінск-Арэне» і ў «Чыжоўка-Арэне». І ўсе засталіся задаволеныя. Уключаючы замежных заўзятараў, якіх панаехала тысячы і якія атрымалі прорву прыемных уражанняў. Асабліва, як памятаецца, ім спадабалася беларускае піва за 0,5 долара.

Зрэшты, усё цячэ і меняецца — і цяпер сітуацыя прынцыпова іншая. Па-першае, шэсць гадоў таму людзей не збівалі на вуліцах, не затрымлівалі ў мірных ланцугах салідарнасці і не выпісвалі 15 сутак канвеерным метадам. Ішло плюс-мінус тыповае жыццё, да якога з 1994-га быў час прывыкнуць. Па-другое, пратэсты ў краіне зусім не здзімаюцца, як бы ў тым не пераконвала дзяржаўная прапаганда. У мінулую нядзелю, напрыклад, «здзімацца» зноў выйшлі больш за сто тысяч чалавек, што прыкметна знервавала сілавікоў — супраць дэманстрантаў яны нават выкацілі вадамёты. То-бок, супрацьстаянне працягваецца, палітычная абстаноўка застаецца хісткай, і хто яго ведае, што там будзе за бліжэйшым гістарычным паваротам.

Па-трэцяе, у 2014-м Мінск праводзіў чэмпіянат сам па сабе — без кампаньёнаў. А цяпер мы дзелім форум на дваіх з Рыгай, і адтуль усё гучыць і гучыць крытычная рыторыка.

Другі раз яна прагучала ў верасні. Прычым, пачакаўшы-паглядзеўшы, нашы латвійскія контрагенты выказаліся яшчэ больш катэгарычна. Урад Латвіі накіраваў ІІХФ адкрыты ліст, у якім адзначыў і фальсіфікацыі на выбарах, і гвалт сілавікоў, і рэпрэсіі беларускай улады ў адносінах да грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ. Зрабіўшы выснову, што «такія дзеянні несумяшчальныя з каштоўнасцямі ІІХФ», латвійскі бок, па сутнасці, абвясціў Міжнароднай федэрацыі ўльтыматум: «У сувязі з гэтым урад Латвіі заклікае перадаць статус галоўнага арганізатара чэмпіянату якой-небудзь іншай краіне. Калі ж сітуацыя з правамі і свабодамі чалавека ў Беларусі не зменіцца і адпаведныя рашэнні з боку ІІХФ не будуць прыняты, урад Латвійскай Рэспублікі можа адазваць свае гарантыі ў якасці краіны — арганізатара турніра».

Так, тут трэба падкрэсліць важную бюракратычную дэталь. Прамы партнёр Беларусі ў праекце сумеснага чэмпіянату — не ўрад Латвіі, а Латвійская федэрацыя хакею. Грамадская арганізацыя, якая падпарадкоўваецца ІІХФ. І яна пакуль не адмаўляецца ад ідэі супольнага турніру. Як, зразумела, і федэрацыя беларуская, якая не стамляецца трансляваць знешняму свету заспакаяльны меседж: маўляў, усё ідзе згодна з планам, мы ў пастаянным кантакце з Рыгай, праца кіпіць, а спорт па-за палітыкай.

Аднак калі латвійскія ўлады не адступяцца, то працэс лёгка зойдзе ў ступар. Бо галоўнае ў арганізацыя такога маштабнага мерапрыемства — гэта фінансавыя і адміністрацыйныя гарантыі. А іх дае не федэрацыя, а менавіта кіраўніцтва краіны.

А для яго, кіраўніцтва, кропка незвароту ўжо фактычна пройдзеная. Уключаць заднюю, адмаўляцца ад агучаных дэкларацый — гэта яўная электаральная небяспека. Бо грамадская думка Латвіі пераважна на баку адмовы ад хакейнага супрацоўніцтва з Беларуссю, і з гэтым трэба лічыцца.

### ІІХФ чэша рэпу

Штаб-кватэра Міжнароднай хакейнай федэрацыі месціцца ў Цюрыху, і кіруе там 70-гадовы швейцарац Рэнэ Фазэл. Цікава, што сваю пасаду ён заняў у 1994 годзе — у той жа час, як у Беларусі да ўлады прыйшоў Лукашэнка. Не дзіўна, што яны даўно знаёмыя і маюць добрыя стасункі. І даўно вядома, што ІІХФ вельмі кансерватыўная арганізацыя, мала здольная да рэзкіх рухаў і праяваў прынцыповасці.

Аднак рашэнне прымаць менавіта ў Цюрыху, і той пакуль дзейнічае надзвычай асцярожна. Напэўна, спадзяецца, што палітычная сітуацыя ў Мінску ўлагодзіцца сама сабой, але нешта рабіць і хаця б выказвацца пра чэмпіянат–2021 яна патрабуе ўжо цяпер.

Робіць ІІХФ пакуль толькі сімвалічныя крокі. У сярэдзіне верасня была створана экспертная група, якая да лістапада будзе маніторыць падзеі ў Беларусі і потым сфармулюе нейкія высновы. Выказваецца Фазэл таксама максімальна неканкрэтна. Хаця як сказаць... Мяркуйце самі.

«Вельмі складаная сітуацыя, — распавёў журналістам 70-гадовы функцыянер. — Мы сутыкнуліся з палітычным ціскам, які ставіць пад сур'ёзны сумнеў правядзенне чэмпіянату свету ў Мінску і Рызе...» Ці вось гэта: «Трывожна бачыць тое, што адбываецца ў Беларусі, — у краіне, дзе выдатна прайшоў чэмпіянат–2014. Прама цяпер, калі б турнір павінен быў прайсці ў гэтым месяцы, правесці яго было б немагчыма...» І яшчэ: «Здароўе і бяспека людзей — гэта самае галоўнае. Улічваючы палітычную сітуацыю і рызыку, мы павінны старанна прааналізаваць пытанне правядзення ЧС–2021. На гэта патрэбны час».

Матывацыя ІІХФ у цэлым празрыстая — выйграць час, які яшчэ ёсць. Пагледзець, як будуць развівацца падзеі, і не рабіць рашучых крокаў. Праўда, праз два месяцы пасля выбараў палітычны спакой беларусам, як кажуць, толькі сніцца. Пратэсты на вуліцах упарта працягваюцца, а ў дадатак, што важна, дзяржава актыўна сварыцца з суседзямі. Асабліва па лініі дыпламатычных адносін, дзе адзываюцца паслы, скарачаюцца штаты дыппрадстаўніцтваў, па-ранейшаму гучаць канспіралагічныя страшылкі пра знешняе ўмяшанне, каардынатараў з ЕС ды ўсялякае іншае разгойдванне чоўна замежнымі лялькаводамі.

Ясная справа, што на карысць сумеснага мінска-рыжскага чэмпіянату такая халодная вайна не ідзе. І ў Цурыху гэта добра бачаць.

### Дык што будзе?

Жыццё — штука складаная і мнагамерная, і, канешне, нельга выключаць, што Мінск і Рыга неяк зноў зблізяцца і злюцца ў экстазе, каб усё-ткі рэалізаваць ідэю ЧС–2021 на дваіх. Да траўня часу хапае, і хто яго ведае, як яшчэ ператасуецца калода. Таму гэты варыянт адкідваць не будзем.

Аднак пакуль справа ідзе да таго, што пасля пэўнага дэдлайну ІІХФ давядзецца склікаць пазачарговы кангрэс і выбіраць адно з двух — аддаваць перавагу Мінску ці Рызе. Два шляхі — і ў кожнага свае недахопы.

Латвія ўласнымі сіламі правесці чэмпіянат не зможа. Для гэтага патрэбна мець два элітныя лядовыя палацы, а там ёсць толькі адзін. Значыць, замест Беларусі нашы балтыйскія суседзі павінны знайсці іншага кампаньёна. Пытанне складанае, але вырашальнае. І ў Рызе нефармальна ўжо агучваюць, што падцягнуць можна, напрыклад, Хельсінкі. Паміж латвійскай і фінскай сталіцамі ўсяго 400 кіламетраў па паветры — гэта бліжэй, чым нават паміж Рыгай і Мінскам. Трохі далей шведскі Стакгольм — праўда, праз мора. Лагістыка складваецца — справа за адпаведнымі дамоўленасцямі.

Мінск без памагатых турнір пацягне лёгка — ёсць і «Мінск-Арэна», і «Чыжоўка». Дый дзяржава дзеля такога геапалітычнага банкету расшчодрыцца на грошы, каб уцерці нос заходнім дэмакратам. Але выдаткі тут іншага кшталту, і адмахнуцца ад іх Цюрыху будзе цяжка. Чэмпіянат тады стане надзвычай «палітычным», і вялікае пытанне, які розгалас гэта атрымае ў хакейным свеце. Вось і Еўрапарламент выступае супраць таго, каб вясной будучага года ў Беларусі гулялі сусветныя лядовыя зоркі.

Нарэшце, і самі зоркі — чэшскія, фінскія, амерыканскія ці канадскія — таксама невядома, як адрэагуюць на канчатковы выбар на карысць Мінска. На Захадзе грамадзянскую пазіцыю можна выказваць беспакарана, і за байкот аднаго асобна ўзятага турніру ніхто цябе не звольніць і не пазбавіць кантракта. Дастаткова прыгадаць, як адмовіўся ехаць у Беларусь сапернік мінскага «Дынама» па КХЛ фінскі «Ёкерыт». І як ён за гэта атрымаў шмат рэспектаў ад заўзятараў розных краін, уключаючы нашу.

Замежныя аматары хакея, дарэчы, таксама ў Мінск могуць не заспяшацца. У грамадзянскіх учынках яны нават больш адчайныя, чым спартсмены. І што ж за чэмпіянат тады атрымаецца? Гледачы не даехалі і не зрабілі касу. Сапернікі таксама прыбылі не ў лепшым выглядзе — і не забяспечылі спартыўны ўзровень. Такі хакей нам патрэбны?

Але самае галоўнае крыецца ў іншым. Што будзе ў бліжэйшай — і не толькі — будучыні з самой Беларуссю. Як доўга працягнецца і чым скончыцца самаадданы беларускі пратэст. Ад гэтага залежыць уся наша нацыянальная перспектыва.

І хакей — толькі частка яе, хаця і вельмі сімвалічная.

# БагатаДата

**70 гадоў таму быў заснаваны завод «Гарызонт». А таксама мы адзначаем багата дзён народзінаў. Каго? Чытайце ў нашым традыцыйным аглядзе.**

## 10 кастрычніка

**Еўрапейскі дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання** і **Сусветны дзень псіхічнага здароўя.**

**1940.** У Мінску нарадзіўся пісьменнік і выдатны журналіст Кастусь Тарасаў, аўтар папулярных гістарычных кніг. Напрыклад, «Пагоня на Грунвальд», «Памяць пра легенды», «Апошняе каханне князя Міндоўга».

## 11 кастрычніка

**Дзень работнікаў культуры** і **Міжнародны дзень дзяўчынак.**

## 12 кастрычніка

**1980.** У вёсцы Вялікія Арлы Столінскага раёна на Брэстчыне нарадзілася штурхальніца ядра Надзея Астапчук. Чэмпіёнка свету і Еўропы. Заваявала бронзавы медаль на Алімпійскіх гульнях–2008, але беларуска была пазбаўлена яго, бо ў яе аналізах былі выяўлены забароненыя рэчывы. Гісторыя паўтарылася на Алімпіядзе–2012, дзе Астапчук паказала найлепшы вынік.

## 13 кастрычніка

**Міжнародны дзень па змяншэнні небяспекі бедстваў.**

**1950.** Заснаваны завод тэлевізараў «Гарызонт».

## 14 кастрычніка

**Сусветныя дні маці і стандартызацыі.**

**1980.** У вёсцы Засовы Лагойскага раёна на Міншчыне нарадзілася лёгкаатлетка Святлана Усовіч. Медалістка чэмпіянатаў свету і Еўропы (бег).

## 15 кастрычніка

**Сусветныя дні сельскіх жанчын** і **мыцця рук.** А таксама **Дзень працаўнікоў фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці.**

**1950.** У Мінску нарадзіўся музыка Анатоль Кашапараў. Саліст славутага гурта «Песняры». Сярод іншага спяваў «Волагду», «Я не магу іначай», «Добры вечар, дзеўчынёчка».

## 16 кастрычніка

**Сусветныя дні харчавання і анестэзіёлага.**

**1935.** У Мінску нарадзіўся беларуска-французскі жывапісец Барыс Забораў. Ствараў касцюмы да спектакляў тэатра «Камедзі Франсэз» у Парыжы, дзе ён жыве.

**1940.** У горадзе Южа Іванаўскай вобласці ў Расіі нарадзіўся скульптар Алесь Шатэрнік. Яго творы захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Траццякоўскай галерэі ў Маскве, у Белым Доме ў Вашынгтоне. Шмат разоў рэстаўраваў пашкоджаную лаву Клінтана ў Курапатах. Менавіта ён зрабіў помную дошку ў гонар абвяшчэння БНР, якую не дазволілі ўсталяваць у Мінску ўлады.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**






Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Гэта наша Беларусь!

**У беларускай «рэвалюцыі» жаночы твар. Прыгожы, адкрыты, натхнёны і вельмі адважны. Такі ж, як і наша краіна. Такой яе нарэшце ўбачыў свет. Такой яна цяпер дакладна застанецца ў гісторыі — годнай, адважнай, натхнёнай і свабоднай. Як жанчыны на гэтых фота.**














Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1688

Падпісана да друку 8.10.2020. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.